№9(162)
2012г.
верасень

# ГОМАН БАРЫСАЎШЧЫНЫ

Краязнаўчая газета
Выдаецца са жніўня 1996 г.
Кошт свабодны

## Крушына: уздым і занядбанне

- ✓ ад фальварка да маёнтка;
- ✓ асобы, якія звязаны з Крушынай;
- ✓ вострасюжэтная гісторыя;
- ✓ шматлікія невядомыя факты.

Чытайце на старонках 6-7

## Адукацыйныя стратэгіі Барысаўскага раёна

*29 жніўня ў гарадскім палацы культуры адбылася канферэнцыя працаўнікоў педагагічных устаноў раёна "Адукацыйныя стратэгіі Барысаўскага раёна: здароўе, інтэлект, творчасць, патрыятызм".*

З аналізам вынікаў працы педагагічных устаноў раёна ў мінулым годзе выступіў начальнік аддзела адукацыі Жэжа Аляксандр Аляксандравіч. Сярод шматлікіх дасягненняў ім былі названыя недахопы, над якімі трэба будзе працаваць у будучым годзе. Прыкра, што не хапае месцаў у дашкольных установах, а таму колькасць дзяцей у групах павялічылася. Па-ранейшаму высокі ўзровень дзіцячай злачыннасці і п'янства.

На сцэну былі запрошаны маладыя спецыялісты, іх прыехала па размеркаванні нямала, але мужчын традыцыйна было толькі некалькі чалавек.

Павіншаваць педагогаў прыйшлі старшыня Барысаўскага раённага выканаўчага камітэта Уладзімір Уладзіміравіч Міраповіч, начальнік аддзела кіраўніцтва адукацыяй Менскага абласнога выканаўчага камітэта Соф'я Пятроўна Філістовіч, дэпутат Палаты прадстаўнікоў Віктар Аляксандравіч Гумінскі. Яны ж уручылі ганаровыя граматы лепшым педагогам.

Адбыліся выступленні з перадавога вопыту і, урэшце, прыняцце рэзалюцыі канферэнцыі. Мерапрыемства завяршылася канцэртам творчых калектываў устаноў адукацыі.

Канферэнцыя педагогаў як бы дала пачатак новаму навучальнаму году. Якім стане ён для педагагічнай грамадскасці, пакажа час.

**Міхась Пучыла**










На поўдні Барысаўшчыны

## Год юбілеяў

*2012 год для Барысаўшчыны багаты на юбілеі.*

Безумоўна, самым важным сёлета з'яўляецца 200-годдзе падзеяў 1812 года (на Барысаўшчыне асноўныя дзеянні праходзілі ў ліпені-лістападзе). Акрамя таго, можна адзначыць 910-годдзе Барысава, 885 год (4 жніўня) найбольш старога згадвання яго ў летапісах (тых, што захаваліся да нашага часу), 220 год (14 жніўня) надання Барысаву поўнага магдэбургскага права, 430 год найбольш старым пісьмовым згадваннем аб мосце ў Барысаве праз Бярэзіну, 370 год (26 жніўня) заснавання ў Барысаве касцёла і шэраг іншых датаў. У гэты спіс можна дадаць юбілеі найбольш старых пісьмовых звестак пра тутэйшыя вёскі (605 год – Дзедзелавічы, 450 – Вяляцічы і г.д.).

Як бачна па датах, большасць юбілеяў ужо прайшло. Аднак (хоць і сціпла) адзначаўся толькі адзін з іх – 910-годдзе Барысава. Усе астатнія юбілеі засталіся па-за ўвагай. Гэта наўрад ці можна лічыць правільным.

Што датычыцца асноўнага юбілею – 200-годдзя падзеяў 1812 года. Нельга сказаць, што ён забыты. Асобныя мерапрыемствы на Барысаўшчыне, якія прысвечаны яму, праводзіліся ў ліпені і ў іншы час (прычым у пэўных з іх удзельнічалі прадстаўнікі не толькі нашай краіны). Плануюцца яны і надалей. Так з 14 па 16 лістапада ў нашым краі будзе рэалізаваны праект "Кола гісторыі". У яго межах 13-16-гадовыя падлеткі наведаюць месцы на Барысаўшчыне, якія звязаны з вайной 1812 года: Барысаў, Студзёнку, Брылёўскае поле. На апошнім будзе разбіты палатачны лагер, дзе падлеткаў чакае адукацыйная праграма.

Усё гэта вельмі важна і добра, але гэта асобныя акцыі, якія ў цэлым не ствараюць атмасферу вялікага юбілею важнай у тутэйшай гісторыі падзеі. Восень пакажа, ці будзе сітуацыя зменена.

**Вінцэсь Стэфановіч**

*Газета **"Гоман Барысаўшчыны"** запрашае да супрацоўніцтва зацікаўленых асобаў, навучальныя і іншыя ўстановы ў падрыхтоўцы матэрыялаў па гісторыі вёсак і мясцовасцей нашага краю.*

## Прагучаў першы званок

*1 верасня ва ўсіх навучальных установах Барысаўшчыны прагучаў першы званок.*

У Барысаве ўпершыню распачнуць навучанне больш за дзве тысячы вучняў і навучэнцаў у 18 школах, трох гімназіях, агульнаадукацыйным ліцэі, чатырох каледжах, прафесійным ліцэі. На жаль, сярод усіх іх на роднай мове адукацыю можна атрымаць толькі ў адной з гімназій.

**Служба інфармацыі "ГБ"**

## Пазбаўляемся ад дробных грошай

*З першага верасня ў Беларусі спыняецца выпуск банкнотаў Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь наміналам 10 і 20 рублёў.*

У абароце такія купюры застануцца ўключна па 28 лютага 2013 года. Пасля таго да 30 верасня 2013 года іх можна будзе абмяняць у неабмежаванай колькасці ў любым банку на купюры вартасцю 50 рублёў. З 1 кастрычніка 2013 года па 31 сакавіка 2014 года гэта можна будзе зрабіць толькі ў Нацыянальным банку Рэспублікі Беларусь. З 1 красавіка 2014 года прыём купюр 10 і 20 рублёў спыняецца і яны будуць лічыцца несапраўднымі.

**Служба інфармацыі "ГБ"**

## Чытайце ў наступным нумары:

***"Чырвоныя сокалы" над Бярэзінай***

*У матэрыяле распавядаецца пра тое, што ўяўляў у 1920 годзе сабой паветраны флот т.зв. чырвонага войска і войска польскага, пра тыя баі, якія яны вялі ў нашым краі. Тэкст ілюструецца ўнікальнымі тагачаснымі фотаздымкамі, якія зроблены на Барысаўшчыне.*

***Барысаўскі турэмны замак***

*Расповед пойдзе пра турэмны замак у нашым горадзе, які быў пабудаваны ў сярэдзіне XIX стагоддзя, яго планіроўку. Чытачы даведуаюцца, колькі пакояў прадугледжвалася для розных арыштантаў, для якіх гаспадарчых службаў меліся адмысловыя памяшканні, што яскрава сведчыць пра тагачасныя бытавыя ўмовы ўтрымання вязняў.*

*З матэрыялаў наступнага нумара чытачы нашага выдання даведаюцца, да якіх нечаканых вынікаў прывялі працяглыя судовыя працэсы вакол маёнтка Мезенцавай у Крушыне, пра малавядомыя звесткі, якія звязаны з помнікамі на Барысаўшчыне, прысвечанымі вайне 1812 года і шмат што яшчэ.*

# Ад нумара да нумара

***Прызнанне***

*З 25 па 29 чэрвеня ў Магілёве прайшоў чарговы (сямнаццаты) фестываль духоўнай музыкі "Магутны Божа". У ім прынялі ўдзел калектывы з адзінаццаці краін. Наш горад на ім прадстаўляла народная харавая капэла "Светач" (святочны хор прыхода храма Дзмітрыя Данскога). Па выніках выступлення барысаўцы занялі трэцяе месца і атрымалі дыплом лаўрэата.*

***Юбілей***

*1 ліпеня аднначасова са святам горада быў адзначаны 910-гадовы юбілей заснавання Барысава. Асноўныя святочныя мерапрыемствы прайшлі на плошчы перад гарадскім Палацам культуры.*

***Фестываль***

*3 ліпеня ў Барысаўскім гарадскім парку прайшоў моладзевы фестываль вулічных танцаў "Borisov region electro". У ім прынялі ўдзел 12 танцораў. Пераможцам быў прызнаны Дзмітрый Быкоўскі, другое месца дасталася Івану Грахаўскасу, трэцяе – Арцёму Кароткіну.*

***Аўтапрабег***

*19 ліпеня праз Барысаў прайшоў міжнародны аўтапрабег "Ад акіяна да акіяна". Яго мэта – падтрымка каштоўнасцяў традыцыйнай сям'і, шлюбу, мацярынства.*

*Удзельнікі аўтапрабегу збіраюцца пераадолець шлях ад Ціхага да Атлантычнага акіяна праз тэрыторыю 20 краін. З сабой яны вязуць абраз Маці Боскай Чанстахоўскай. У нашым горадзе ён быў часова ўстаноўлена на плошчы перад гарадскім Палацам культуры, дзе адбыліся асноўныя мерапрыемствы па сустрэчы ўдзельнікаў аўтапрабегу, праведзены малебен. Пасля таго ў Палацы культуры прайшла навукова-практычная канферэнцыя "Дэмаграфічная дынаміка і дэмаграфічны патэнцыял Беларусі".*

***Рэканструкцыя***

*Напрыканцы ліпеня ўдзельнікі барысаўскіх клубаў ваенна-гістарычнай рэканструкцыі "Дняпроўскі пяхотны полк" і "Азоўскі пяхотны полк" прынялі ўдзел у рэканструкцыі бітвы пры Грос-Экаў (г.Іецава, Латвія). Усяго ў ёй прыняло ўдзел больш за 200 уніфармістаў з Латвіі, Літвы, Беларусі, Расіі, Германіі і Чэхіі.*

***Фільм***

*У жніўні на Барысаўшчыне праходзілі здымкі эпізодаў фільма "Тайга". Яны праводзіліся ў Барысаве і Чэрнеўцы. Рэжысёр фільма Аляксандр Кановіч. Мяркуецца, што ў пракат стужка выйдзе сёлета ў лістападзе.*

***Пераход***

*21-22 жніўня на Барысаўшчыне знаходзіліся ўдзельнікі коннага пераходу "Масква-Парыж 1812-2012", які прысвечаны 200-годдзю Расійска-французскай вайны. Яго ўдзельнікі – расійскія казакі.*

*21 жніўня ў Лошніцы адбылася ўрачыстая сустрэча ўдзельнікаў пераходу, 22 жніўня яны правялі ў Барысаве, наведалі Студзёнку, Брылі.*

***Поспех***

*Барысаўскі футбольны клуб "БАТЭ" пасля нічыі ў матчы ў адказ з клубам "Хапаэлем" у чарговы раз выйшаў у групавы этап Лігі чэмпіёнаў. Жрэбій выпаў яму гуляць у адной групе з нямецкай "Баварыяй", іспанскай "Валенсіяй" і французскім "Лілем".*

***Служба інфармацыі "ГБ"***

# "Традыцыі і сучаснасць"

*З 28 жніўня па 11 верасня ў галерэі "З'ява" Цэнтральнай раённай бібліятэкі імя І.Х.Каладзеева дзейнічае выстаўка "Традыцыі і сучаснасць", у экспазіцыі якой дэманструецца калекцыя мастацкіх твораў галерэі.*

Калекцыя галерэі "З'ява" пачала фарміравацца з 1992 года, калі пачала пастаянна дзейнічаць мастацкая выстава пры зале мастацтваў. Тады было прынята рашэнне прапанаваць мастакам, якія ўдзельнічаюць у выставах, пакідаць, па магчымасці, адну карціну ў дар выставачнай зале.

На сённяшні дзень збор галерэі налічвае больш за 80 карцін. Частка гэтага мастацкага фонду пастаянна экспануецца ў фае 3-а паверха Цэнтральнай бібліятэкі, а таксама ў іншых бібліятэках горада.



*"Куток старога горада" (зверху), П.Казявін, пачатак 1990-х гадоў, палатно, алей.*



*"Вярнуўся" (зверху справа), В.Бялоў, 1984 год, палатно, алей.*

Экспазіцыя выставы прадстаўлена працамі, выкананымі ў розных тэхніках выяўленчага мастацтва. Гэта акварэль, жывапіс, графіка, экслібрыс, фларыстычны калаж, друк на палатне. Аўтары прац: лаўрэат Дзяржаўнай прэміі РБ Валерый Шкаруба, Народны мастак Расіі Ігар Салдаценкаў, Заслужаныя мастакі Расіі Ігар Ступін і Аляксандр Хопкін, сябры Беларускага саюза мастакоў Віктар Бялоў, Мікола Рыжы, Павел Амялюсік, Фёдар Кісялёў, барысаўскія мастакі Сяргей Лагачоў, Наталля Ганчарова, Мікалай Кісялёў, Станіслаў Баяранка і іншыя. Ёсць і творы маладых мастакоў: выпускніцы Барысаўскай дзіцячай мастацкай школы, лаўрэата Прэзідэнцкай прэміі Лісаветы Гапоненка, навучэнкі Салігорскай мастацкай школы Кацярыны Бяскостай, выхаванкі Менскай студыі выяўленчага мастацтва Р.Мая Соф'і Духноўскай.

На выставе шырока прадстаўлены працы ў тэхніцы графікі і жывапісу барысаўскага мастака Мікалая Кісялёва, які нядаўна сышоў з жыцця. Творы мастака ўпрыгожваюць многія ўстановы нашага горада, у прыватнасці, цэнтральны паштамт, некаторыя школы горада. На адкрыцці выставы прысутнічала яго жонка Марыя Васільеўна Кісялёва.

***Служба інфармацыі "ГБ"***

# Арганізацыйныя заняткі

*2 верасня ў Польскім доме Звязу палякаў Барысаўшчыны адбыліся арганізацыйныя заняткі ў сувязі з новым навучальным годам.*

Для вывучэння польскай мовы ствараюцца дзве групы: для дарослых, дзе будзе выкладаць выпускнік Беластоцкага ўніверсітэта Уладзімір Пашкевіч, і малодшая, якую будзе весці старэйшая настаўніца польскай, нямецкай і французскай моў Яніна Чыркун. У праграме навучання сёлета будуць больш шырока выкарыстоўвацца тэхнічныя сродкі навучання.

Для тых, хто дасягнуў у вывучэнні мовы суседняй дзяржавы пэўных поспехаў, адкрыты шлях для папаўнення ведаў у польскім інстытуце, што знаходзіцца ў Менску. Але там трэба вытрымаць своеасаблівы экзамен.

На радзе абмеркаваны далейшыя планы работы Звязу на 2012 год. Асаблівая ўвага надзялялася адзначэнню 200-й гадавіны 1812 года, бо ў ёй удзельнічала нямала палякаў, прытым на высокіх камандных пасадах. Так што ў каго на Барысаўшчыне, у Жодзіне, Крупках ёсць польскія карані, могуць смела далучацца да гэтай справы.

***Антон Клімовіч,***
***сябра Звязу палякаў Беларусі***

# Пілігрымка ў Росіцу

*З 27 ліпеня па 3 жніўня пілігрымы з Барысава (каталіцкія вернікі) пешшу прайшлі шлях ад нашага горада да вёскі Росіца Верхнядзвінскага раёна Віцебскай вобл. (каля 300 км).*

Там у лютым 1943 года нямецкія карнікі знішчылі больш за паўтары тысячы тамтэйшых жыхароў. Разам з імі смерць прынялі і ксяндзы мясцовага прыхода.

3-4 жніўня пілігрымы з Барысава прынялі ўдзел ва ўрачыстасцях у Росіцы, якія прысвечаны тым трагічным падзеям. Падобныя акцыі зараз праводзяцца штогод.

***Служба інфармацыі "ГБ"***

***На здымку:** пілігрымы з Барысава на падыходзе да былога мястэчка Зембін.*





# Тутэйшы кнігазбор

Сёлета да 910-годдзя Барысава быў выдадзены рэкламна-інфармацыйны буклет "910 лет". Ён мае добрае паліграфічнае выкананне, утрымлівае 28 старонак фармату А4. У ім прыведзена больш за 130 каляровых фотаздымкаў і тэксты, якія напісаны на рускай мове. На жаль, спіс аўтараў буклета не раскрываецца.

Большая частка выдання – 21 старонка – прысвечана тутэйшым прадпрыемствам і ўстановам розных галін эканомікі і сельскай гаспадаркі, адукацыі, медыцыны, культуры, гандлю, турызму, а таксама спорту. На дзвюх з паловай старонках прыведзены кароткія гістарычныя звесткі пра Барысаў. Паўтары старонкі прысвечаны апошняй вайне, адна – узнагароджанню горада ордэнам і яшчэ адна – звароту да чытачоў старшыні райвыканкама У.Міproperties

Мірановіча.

У цэлым па сваёй структуры буклет мала чым адрозніваецца ад фотаальбома "Барысаў", які быў выдадзены ў 2008 годзе. Пры ўсёй важнасці і неабходнасці выхаду ў свет падобных выданняў, хацелася б, каб болей з'яўлялася іншых, больш глыбокіх, у тым ліку і тэматычных кніг і буклетаў, якія б адкрывалі чытачам невядомыя факты пра наш край.

***Алесь Барэвіч***

* * *




Творчы, энергічны, настойлівы ў дасягненні мэты чалавек, Валянціна Леві да свайго 75-годдзя зрабіла сабе выдатны падарунак – выдала кнігу выбранай публіцыстыкі "Над гадочкамі палёт", якую прысвяціла 100-годдзю з дня нараджэння бацькі і Году кнігі.

Зборнік атрымаўся разнапланавым у тэматычных адносінах, аб чым сведчаць назвы яго раздзелаў: "Праверана жыццём" (нарысы, артыкулы), "Літаратурнае аб'яднанне "Натхненне", "Фота-альманах", "Аб "Натхненні" пісалі", "Над гадочкамі палёт...".

Змест першага раздзела ў асноўным складаюць нарысы: артыкулы, напісаныя ў 80-я гады і надрукаваныя ў газеце "Камуністычная праца". Іх героі – прадстаўнікі розных рабочых і інжынерных прафесій, настаўніца, журналіст, медсястра, паэт...

У наступным раздзеле аўтар піша аб поспехах і праблемах у рабоце літаратурнага аб'яднання "Натхненне". У прыватнасці, з удзячнасцю ўспамінае людзей, якія ў творчых і фінансавых адносінах падтрымліваюць яго ўдзельнікаў.

Упрыгожылі выданне фатаграфіі, якія адлюстроўваюць будні і святы мясцовых аўтараў.

В.Леві палічыла мэтазгодным уключыць у сваю кнігу артыкулы другіх аўтараў, якія пісалі пра "Натхненне". І гэта, на маю думку, апраўдана.

Завяршае зборнік нестандартна напісаная біяграфія і адметны фотаальбом, што добра дапаўняе характарыстыку В.Леві як творцу, як чалавека.

Напаследак хочацца адзначыць удалы выбар назвы кнігі, аб чым сведчаць мастацкае афармленне вокладкі і радкі з верша паэткі:

***Не дневник,***
***Не мемуары –***
***Над годочками полёт...***
***Жизнь и праздник,***
***Жизнь и драма!***
***Дай Бог правнук***
***Всё поймёт...***

* * *

Назва другога зборніка Вадзіма Барысава "В непечаль" (ён пабачыў свет ў выдавецтве "Каўчэг" нядаўна) глыбока і дакладна перадае адметнасць светабачання аўтара, арыгінальнасць сістэмы вобразнасці яго паэзіі.

Як правільна ўказана ў анатацыі, яго вершы трэба чытаць, даяраючы думкам аўтара, якія абцяжарваюць і натхняюць душу.

Да выпуску гэтай невялікай па фармаце кніжкі прычыніліся рэдактар Антон Клімовіч, адказны за выпуск Уладзімір Кузьмін, афарміцель вокладкі Вольга Бардзілоўская. Наклад зборніка ўсяго 99 асобнікаў.

***Іван Белы***





*Фотаздымкі з фестываля "Наш Грунвальд", які праходзіў у Дудутках 21-22 ліпеня.*

*Барысаўцы – удзельнікі фестываля "Наш Грунвальд" (знізу). Злева на пярэднім плане – кіраўнік Барысаўскага клуба гістарычнай рэканструкцыі "Баявая спадчына" Дзмітрый Цімашэнка.*

# Багатае на падзеі лета, або Наперад у сярэднявечча

*Насычаным на падзеі і запамінальным было лета для ўдзельнікаў Барысаўскага клуба гістарычнай рэканструкцыі "Баявая спадчына".*

Яны прынялі ўдзел у пяці фестывалях: у Полацку (фестываль "Рубон", 1-3 чэрвеня), Дудутках (фестываль "Наш Грунвальд", 21-22 ліпеня), у Мірскім замку (фестываль "Спадчына стагоддзяў", 29 чэрвеня – 1 ліпеня), у Мсціславі (28-29 ліпеня) і пад Астрашыцкім Гарадком (фестываль "Белы Замак", 17-19 жніўня). Усе яны былі міжнароднымі, у іх удзельнічалі клубы не толькі з Беларусі, але і з Расіі, Польшчы, Украіны і Літвы.



Самымі запамінальнымі на фестывалях былі бугуры – масавыя паўнакантактныя баі, якія цалкам паўтараюць сярэднявечныя. У Дудутках праводзілася рэканструкцыя Грунвальдскай бітвы. Праводзіліся таксама рыцарскія турніры, спаборніцтвы лучнікаў.

Праграмы фестываляў давалі магчымасць больш глыбока азнаёміцца з сярэднявечнай культурай, кухняй. Праводзіліся канцэрты фолк, рок гуртоў і іншых выканаўцаў, фаер-шоў.

*Служба інфармацыі "ГБ"*



# З жыцця яўрэйскага грамадскага аб'яднання "Святло Мяноры"

Лета – традыцыйны час адпачынку. Не парушаюць гэту традыцыю і сябры нашай абшчыны. Многія з іх у гэтыя прамінулыя летнія дні змаглі добра адпачыць, пабываць на разнастайных экскурсіях, убачыць свет сваімі вачыма. Нягледзячы на практычную адсутнасць фінансавання нашых абшчынных праграм, мы змаглі арганізаваць некалькі ўдалых паездак па роднын краі. Асабліва запомнілася наведванне заапарка і дэльфінарыя ў Менску. Традыцыйнымі былі і паездкі па яўрэйскіх мясцінах Барысаўшчыны, у час якіх сябры нашай абшчыны пабывалі ў Мсціжы, Зембіне, на Брылёўскім полі. Яны ўсклалі карзіны з кветкамі на месцы масавых расстрэлаў восенню 1941 года, наведвалі экспазіцыю музея, які размешчаны ў Доме культуры Зембіна, дзе прадстаўлены работы нашай землячкі Надзеі Лежэ, а таксама некаторыя экспанаты Іканскага музея Народнай славы.

* * *

15 ліпеня 2012 года па ініцыятыве нашай абшчыны ў Малой зале гарадскога Палаца культуры адбыўся вельмі цікавы канцэрт сямейнага дуэта з Масквы – Натан і Надзея Крыцкіх, у рэпертуары якіх прагучала шмат песень на іўрыце, ідыш і рускай мове. У паўзах паміж песнямі гучаў яўрэйскі гумар у выкананні Натана Крыцкага. Пакарыў ён усіх прысутных ў зале, а іх было ля ста чалавек, і фрагментамі джазавай музыкі са свайго музычнага альбома "Настальгія", выконваючы сола на трубе. Амаль трохгадзіннае выступленне дуэта "Зорка Давіда" пакінула глыбокі след ў сэрцах усіх прысутных, даўшы ім магчымасць далучыцца да нацыянальнай культуры.

* * *

29 ліпеня 2012 года ў Дзень 9-а Ава па яўрэйскім календары. У гэты дзень сябры нашай абшчыны наведалі магілы сваіх родных і блізкіх на могілках Барысава. У гэты дзень быў прачытаны кодэкс-малітва ў памяць аб нябожчыках. Па традыцыі сябры нашай абшчыны ўсклалі памятныя карзіны з кветкамі на месцы расстрэлу вязняў Барысаўскага гета, а таксама ля памятнага знака яўрэям-барысаўцам, вязням ГУЛага. А папярэднічала гэтаму дню вялікая і карпатлівая праца па добраўпарадкаванні могілак і месца расстрэлу вязняў Барысаўскага гета, у ходзе якой было абкошана больш за тры гектары зямлі, прыведзена ў парадак ля ста магіл, пачышчана і пафарбавана ля шасьцідзесяці агароджаў.

Пэўную дапамогу пры гэтым нашай абшчыне аказалі працаўнікі спецаўтагаспадаркі, прадпрыемства "Зеленбуд" і доследная лясгаса.

Праўленне яўрэйскага грамадскага аб'яднання "Святло Мяноры" дзякуе калектывам гэтых прадпрыемстваў за аказаную дапамогу і, у той жа час, выражае спадзяванне на тое, што ў далейшым гэтая дапамога стане традыцыйнай і больш грунтоўнай.

* * *

У сярэдзіне жніўня 2012 года ў госці да нашай абшчыны прыязджалі дэлегацыі супрацоўнікаў Менскага яўрэйскага абшчыннага дома, а таксама былых вязняў Менскага гета і Праведнікаў Свету з Менска. Для іх былі арганізаваны экскурсіі па яўрэйскіх абшчынах Барысаўшчыны, а таксама па месцах, звязаных з падзеямі Айчыннай вайны 1812 года на Барысаўшчыне, 200-годдзе якіх будзе адзначацца восенню гэтага года.

У Зембіне, з выпадку 71-й гадавіны са дня расстрэлу вязняў гета, дэлегацыі ўсклалі памятныя карзіны.

*Міхаіл Перац, старшыня праўлення яўрэйскага грамадскага аб'яднання "Святло Мяноры"*

# Творчыя сустрэчы

*Іх правяла сябра Звязу беларускіх пісьменнікаў Вера Буланда. Дарэчы, яна наша зямлячка, працавала ў Мсціжы настаўніцай, друкавалася ў мясцовай прэсе, у тым ліку і "ГБ". Тут яна ўкладвала і выдавала адну з першых сваіх кніг, актыўнейшым спонсарам якой стаў былы старшыня Барысаўскага райвыканкама Аляксандр Янчанка.*

Сустрэча пачалася ў шостай гарадской бібліятэцы, што ля касцёла Дзевы Марыі. На яе прыйшлі не толькі актыўныя чытачы, але і мясцовыя паэты творчых саюзаў ( Звязу пісьменнікаў Беларусі і "Полоцкой ветви"). Лёля Багдановіч, Валянціна Анкудзінава, Вадзім Барысаў, Святлана Мароз і іншыя.



Вядома, сустрэчу адкрывала Вера Буланда . Прыцішаны, мілагучны голас зачараваў многіх, прытым калі на экране з'явіліся экзатычныя краявіды і загучала музыка , на душы стала прыемна. Праўда, у аднаго дзядка-літаратара, які сядзеў побач з паэтэсай, не засталося ніякага паняцця пра яе творчасць. І пасля заканчэння імпрэзы спытаў мяне, ці зразумеў я што? Мне толькі заставалася пацісную плячыма. Аказалася, што ён не ведае беларускай мовы, хаця жыве ў Барысаве больш за аўтара гэтых радкоў.

Паэтэса не толькі прадставіла сябе, але і дала магчымасць выступіць мясцовым творчым асобам. Першым узяў слова старэйшына літаратурнага цэха Вадзім Барысаў. Бліскуча выступілі Лёля Багдановіч, паэтэса-бард Валянціна Анкудзінава. Але ў іх няма сваіх асабістых зборнікаў, як у Веры Буланда – ля дзесяці, ці ў той жа Алы Лапошы, Вячаслава Гілевіча, Валянціны Леві і іншых. Большасць мясцовых літаратараў друкуюцца калектыўна, у тым ліку і на старонках газеты "Гоман Барысаўшчыны".

Вера Буланда сустрэлася з адпачываючымі санаторыя "Бярэзіна", жыхарамі вёскі Глівін.

*Антон Клімовіч*



*Канец жніўня. Лес у наваколлях вёскі Навішчына.*

# 40 мільёнаў гадоў таму назад

*У 1973 годзе беларускія геолагі пры правядзенні геафізічных прац у Лагойскім раёне выявілі анамальную зону ў форме кальца дыяметрам каля 12-15 км. На плошчы анамаліі былі прабураны некалькі свідравін, праведзены іншыя даследаванні. І высветлілася, што пад слоем чацвярцічных адкладаў магутнасцю 80-200 м залягаюць пароды, якія рэзка адрозніваюцца ад тыповых для дадзенага раёна.*



*Тэрыторыя Лагойскага метэарытнага кратэра*

Далейшыя даследаванні паказалі, што анамалія з'явілася ў выніку падзення на гэтую плошчу буйнога (дыяметрам 500-600 м) метэарыта. Пры гэтым з'явіўся кратэр выбуху варонкападобнай формы глыбінёй да 1,5 км. Ніжняя частка кратэра запоўнена абломкамі (раздробленымі і часткова пераплаўленымі) парод крышталічнага фундамента і тагачаснага асадачнага чахла, у тым ліку там выяўлены спецыфічныя пароды (імпакціты), якія фарміруюцца ў выніку моцных выбухаў. Верхняя, больш шырокая частка кратэра запоўнена больш познімі глiністымі і пясчанымі адкладамі. Яны фарміраваліся ў глыбокім возеры, якое ўзнікла на месцы падзення метэарыта.

Кратэр мае крыху асіметрычную форму, што звязана з накірункам палёту касмічнага цела з паўднёвага захаду на паўночны ўсход, у выніку паўднёва-заходні борт кратэра больш пакаты, а паўночна-ўсходні – стромкі. Расплаў, які ўзнік пры ўдары, выплюхнуўся ў накірунку палёту на ўсходні борт варонкі. Час узнікнення кратэра ўдакладнены на падставе вывучэння спораў і пылку з адкладаў кратэрнага возера і метадам ізатопнага датавання імпакцітаў.

Канчатковае заключэнне аб касмічным паходжанні Лагойскай катлавіны было зроблена ў 1979 годзе. Структура атрымала назву Лагойскі метэарытны кратэр ці Лагойская астраблема. У далейшым матэрыялы касмічных аэрафотаздымкаў дапамаглі ўдакладніць форму кратэра, які слаба выражаны ў сучасным рэльефе.

Цэнтр Лагойскай астраблемы знаходзіцца ў 7,5-8 км на паўночны захад ад г.Лагойска. Паблізу размешчаны вёскі Кузевічы і Лагоза.

Гэта пакуль што адзіны выяўлены ў Беларусі ўзрыўны метэарытны кратэр – вынік касмічнага катаклізму, які адбыўся на тэрыторыі Беларусі каля 40 мільёнаў гадоў таму назад.

***Таццяна Шміт***

# Беразанка

*Галоўная рака нашага краю Бярэзіна распачынаецца і завяршае свой шлях за межамі краю. Тое самае можна сказаць і пра раку Цна, прыток Гайны. Але сярод маленькіх рэк нашага краю падобнае (па зразумелых прычынах) практычна не сустракаецца. Адно з выключэнняў з гэтага правіла – рэчка Беразанка.*



*Беразанка працякае па лясах, у якіх уздзеянне людзей адчуваецца мала. Таму не дзіва, што шмат дзе яе рэчышча літаральна закідана паваленымі дрэвамі.*

Беразанка (яна мае і іншую, больш познюю, назву – Старыца) распачынаецца ў трох кіламетрах на паўночны ўсход ад вёскі Гаравец і цячэ на паўночны захад. Каля трох кіламетраў ад сваіх вытокаў яна знаходзіцца ў межах Докшыцкага раёна Віцебскай вобласці, потым меней кіламетра цячэ па Барысаўшчыне. Пасля таго вяртаецца на землі Докшыцкага раёна і праз два кіламетры ўпадае ў прыток Бярэзіны раку Дзяражына.

Вярхоўе Беразанкі мае шмат пагоркаў, сухое з істотнымі перападамі вышынь. Таму на першых трох кіламетрах перапад узроўню вады ў рацэ складае больш трыццаці метраў, далей – усяго некалькі метраў. Яшчэ на тэрыторыі Барысаўскага раёна Беразанка перасякае мяжу Бярэзінскага запаведніка, праз які цячэ пераважна па забалочанай мясцовасці. Практычна на ўсёй сваёй працягласці рака не пакідае лес. Хаця дзеля справядлівасці варта адзначыць, што так было не заўсёды. У першыя дзесяцігоддзі XX стагоддзя ў сувязі з пашырэннем плошчаў апрацоўваемых сельскагаспадарчых зямель у самым яе вярхоўі і ў сярэдняй плыні (у тым ліку і на Барысаўшчыне) частка лясоў была высечана. Тым не менш ніякіх населеных пунктаў на яе берагах не было.

Зараз мясцовасць, па якой працякае Беразанка, вельмі ціхая, бязлюдная і спакойная, дзе практычна няма ўплыву на яе чалавека.

***Антось Гурскі***

# Поспехі барысаўцаў

Ілля Ульяновіч, навучэнец СШ №6 г.Барысава, стаў бронзавым прызёрам 9-й міжнароднай геаграфічнай алімпіяды, якая праходзіла ў канцы жніўня ў г.Кёльне (Германія).

* * *

Выхаванцы і выкладчыкі Барысаўскага экалагічнага цэнтра ўзялі ўдзел у X экалагічным форуме ў Маладзечне, які праходзіў там з 24 па 26 жніўня. Форум быў прысвечаны пытанням асветы, адукацыі і выхавання ў вобласці аховы навакольнага асяроддзя.

Барысаўскія эколагі прадставілі на форуме выстаўку кампазіцый з жывых кветак і правялі шэраг майстар-класаў па фларыстыцы і дызайне.

Дырэктару Барысаўскага экалагічнага цэнтра Анжэле Журавель на форуме была ўручана Пачэсная грамата Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя РБ за значны ўклад ў справу аховы навакольнага асяроддзя, забяспечвання рацыянальнага выкарыстання прыродных рэсурсаў.

***Служба інфармацыі "ГБ"***

# Беларуская кала

*Гэтая балотная расліна ў цяжкія, галодныя часы выручала нашых бабуль, дзядоў, бо яе сакавітае лісце з ахвотай ела скаціна, асабліва свінні.*



Па навуковаму расліна завецца Calla palustris L., па-беларуску капытнік, руская назва "белокрыльник болотный". У нашых мясцінах яе завуць какошнік, наогул жа па Беларусі ў яе шмат назваў, што сведчыць аб яе вядомасці і папулярнасці ў народзе. У тэматычным слоўніку "Раслінны свет" Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа НАН РБ (Менск, "Беларуская навука", 2001) прыводзяцца ў прыватнасці такія назвы, як свінячы (заечы) бабоўнік, гускі, пеўнікі, вушкі, лапкі (і вуха) мядзвежае, жабіна мыла, свіняча зелле, свіныя (воўчыя) агуркі, капялюшнік, конскія (чортавы) капыцікі і іншыя.

Выглядае расліна вельмі прывабна. Мае цёмна-зялёнае бліскучае сэрцападобнае лісце, сярод якога выдзяляюцца суквецці ў выглядзе пачатку, якія ахінутыя варонкападобным пакрывалам, звонку зялёным, а з унутранага боку малочна-белым. Самі кветкі дробныя, непрыкметныя, пасля апылення з іх вырастаюць яркачырвоныя, дастаткова буйныя ядавітыя ягады, якія з цягам часу пакрываюцца слізззю (за кошт чаго лёгка чапляюцца за пер'е птушак і разносяцца на вялікія адлегласці). Вышыня расліны да 30 см. Карэнішча мясістае, даўгое, багатае крухмалам, таксама ўдзельнічае ў размнажэнні.

Расце на балотах, па топкіх берагах вадаёмаў, фарміруючы часам суцэльныя зарасці. Акрамя Беларусі, сустракаецца на субарктычных і ўмераных тэрыторыях Еўропы, у Сібіры, на Далёкім Усходзе.

Здымак какошніка да дадзенага артыкула зроблены на лясным азярцы паблізу Барысава (м-н Энка).

Акрамя кармлення скаціны, расліну выкарыстоўвалі ў народнай медыцыне. Адвар травы і карэнішча як мачагоннае пры ацёках, пры рэўматызме ад боляў, плады – як слабіцельнае, свежае карэнішча прыкладалі да месца ўкусу змей.

***Ева Граковіч***

# Самы вялікі заказнік

*Калі ехаць з Зембіна па дарозе на Бягомаль, звяртаюць на сябе ўвагу інфармацыйныя шчыты, якія ўказваюць, што тут знаходзіцца біялагічны заказнік па ўзнаўленні белавежскіх зуброў.*




Наогул на Барысаўшчыне маецца 20 заказнікаў. Два з іх рэспубліканскага значэння (заказнік-журавіннік "Чэрнеўскі" і ландшафтны заказнік "Чарневіцкі"), астатнія – мясцовага (17 гідралагічных і адзін біялагічны – менавіта пра яго зараз і ідзе размова). Заказнік па ўзнаўленні белавежскіх зуброў з'яўляецца самым вялікім сярод усіх тутэйшых заказнікаў.

Заснаваны ён быў рашэннем Барысаўскага райвыканкама 31 студзеня 1996 года. Яго агульная плошча складае 11809,5 га, 8325,0 з якіх знаходзяцца пад лесам. 25 студзеня 2001 года ён быў перададзены ў арэнду Бярэзінскаму біясфернаму запаведніку.

Бярэзінскі біясферны запаведнік з'яўляецца адным з тых нешматлікіх месцаў у нашай краіне, дзе ў натуральных умовах жывуць зубры. Аднак яны не прызнаюць межаў і могуць значна мігрыраваць ад месца сваёй "прапіскі". Дзеля таго, каб яны там заставаліся пад аховай, ля запаведніка і быў у свой час створаны дадзены біялагічны заказнік.

Заказнік па ўзнаўленні белавежскіх зуброў знаходзіцца на тэрыторыі Мсціжскага і Іканскага лясніцтваў. Найбольш ахоўваемыя яго часткі знаходзяцца ў Іканскім лясніцтве. На тэрыторыі заказніка ўводзіцца абмежаванне на любыя працы, якія могуць выклікаць значныя змены яго глебы і расліннага покрыву, а таксама іншыя гаспадарчыя працы, якія пагаршаюць месца пражывання зуброў. У той жа час тут прадугледжваюцца мерапрыемствы, якія накіраваны на захаванне дадзенай папуляцыі зуброў.

Не дзіва, што ў выніку ўсіх прынятых захадаў зубры тут адчуваюць сябе вельмі ўпэўнена, а ад тамтэйшых жыхароў не так і рэдка можна пачуць распавед пра сустрэчу з імі.

***Антось Гурскі***

## Замалёўкі з жыцця Барысава.
# Слуп – справа важная

*Мы працягваем распавядаць пра пэўныя дробныя гісторыі з мінуўшчыны Барысава, якія не маюць важнага ці лёсавызначальнага значэння для нашага горада, але якія дазваляюць лепей зразумець тое, чым і як жыў наш горад у былыя часы. Сёння размова пойдзе пра нулявы верставы ступ, які рабіўся ў Барысаве напрыканцы XVIII стагоддзя.*

Наша газета ўжо пісала пра тое, што ў другой палове 90-х гадоў XVIII стагоддзя ў цэнтры горада па вуліцы Камаровай (зараз – фрагмент вуліцы Камсамольскай) быў пабудаваны комплекс будынкаў паштовай службы. Адлік трактаў рабіўся менавіта ад яго. Таму ўзнікла неабходнасць устаноўкі тут нулявога верставога слупа.

У 1798 годзе быў наняты Цімафей Корбуш, які адказна выканаў сваю справу: зрабіў і ўсталяваў на неабходным месцы нулявы слуп. Дзеля таго, каб афарбаваць яго, быў наняты яшчэ адзін працаўнік, маляр Пётр Букоўскі. Ён таксама выканаў сваю справу як мае быць.

Такія дробныя бягучыя моманты, можа, і засталіся б па-за ўвагай тагачасных дакументаў, калі б не адна акалічнасць. Праца і Корбуша і Букоўскага своечасова не была аплачана. У наступным 1799 годзе, каб выйсці з дадзенага становішча, барысаўскі гараднічы (гэтую пасаду ў той час займаў Бурцаў) 16 траўня піша паведамленне ў гарадскі магістрат, у якім просіць яго выплаціць Букоўскаму два рублі за афарбоўку верставога слупа. Барысаўскі магістрат на той час складаўся з шасці чалавек: двух бургамістраў (Рамана Самцэвіча і Пятра Міpановіча) і чатырох ратманаў (Іосіфа Хахілевіча, Івана Самцэвіча, Шмуйло Янкілевіча і Меера Гіршовіча). У той самы дзень 16 траўня ён разглядае паведамленне гараднічага і прымае рашэнне выплаціць дадзеныя грошы працаўніку.

Цяжка сказаць, чаму так адбылося, але толькі праз тры тыдні 6 чэрвеня той жа Бурцаў піша падобнае паведамленне ў магістрат з просьбай аплаціць працу Корбуша. Магістрат разглядае яго 7 чэрвеня і зноў сваім рашэннем падтрымаў гараднічага. На гэтым дадзеная гісторыя атрымала сваё лагічнае завяршэнне.

Да нашага часу не захаваліся звесткі пра тое, колькі прастаяў той слуп і пры якіх абставінах ён знік.

***Міхась Мацельскі***




# Дрыгба – Светлы Гай

*Нярэдка здараецца так, што адно пасяленне (ці яго гаспадарчыя адзінкі) становіцца падставай для ўзнікнення на яго месцы (або ля яго) іншага – значна большага і важнага населенага пункта. Пры гэтым існаванне першага аб'екта і яго назва з цягам часу забываецца. Менавіта так адбылося з маленькім хутарам Дрыгба ў самым цэнтры Барысаўшчыны.*




Заснаваны ён быў у апошнія дзесяцігоддзі XIX – самым пачатку XX стагоддзя. Па стану на 1909 год у ім было ўсяго дзве хаты, у якіх было 11 жыхароў. Роўна сто год таму – ў 1912 годзе тут адбылася вельмі важная падзея. Прадпрымальнік Ш.Аронін ля хутара пабудаваў і запусціў у строй цагляны завод. Гэта значна паўплывала на далейшы лёс пасялення, і, як гэта не можа на першы погляд паказацца дзіўным, але ўскосна гэта падзея (як і шэраг іншых, якія былі звязаны адна з адной і яе наступствамі) праз 84 гады прывядзе да ўзнікнення тут вышэйшай навучальнай установы. Безумоўна, Аронін такі ход падзеяў нават уявіць сабе ніяк не мог.

Войны і дзяржаўны пераварот (з барацьбой, якая мела месца пасля яго) другога і трэцяга дзесяцігоддзяў XX-а стагоддзя цяжка адбіліся на стане Дрыгбы. Без таго малое яго насельніцтва ў 20-я – 30-я гады паменшылася яшчэ больш чым у два разы. Затое вытворчасць цэглы на мясцовым заводзе ў гэты час атрымала моцны імпульс для развіцця. У 1927 годзе тут на базе старога засноўваецца новы завод. Для спрашчэння вывазу прадукцыі з завода да Бярэзіны ў Студзёнцы будуецца вузкакалейка (фрагмент яе насыпу захаваўся па наш час).

Нягледзячы на тое, што "гістарычная" частка Дрыгбы працягвала захоўвацца, пасёлак цаглянага завода (завод меў назву "Студзёнка") яўна дамінаваў над ёй. У савецкія часы ў ім была размешчана вайсковая частка. 21 студзеня 1969 года пасёлак атрымаў назву Светлы Гай.

Лёс цаглянага завода завяршыўся на пачатку 80-х гадоў XX стагоддзя. Яшчэ гадоў праз дзесяць была зліквідавана і вайсковая частка. Яе маёмасць спачатку была перададзена на баланс 140-га рамонтнага завода, а праз некалькі год тут быў заснаваны цэнтр перападрыхтоўкі Міністэрства надзвычайных сітуацый. У 1996 годзе на яго базе ствараецца "Інстытут перападрыхтоўкі і павышэння кваліфікацыі". Зараз месца, дзе размяшчаўся былы завод Ароніна, – гэта маленькі кавалак зямлі на палігоне аператыўна-тактычнай падрыхтоўкі інстытута.

Што ж датычыцца назвы Дрыгба і кароткай гісторыі гэтага пасялення да стварэння тут пасёлка пры заводзе, то вам іх наўрад ці хто раскажа з тутэйшых жыхароў. Яны цалкам забытыя.

***Міхась Мацельскі***



*Месца ля ручая, дзе на мяжы XIX-XX стагоддзяў узнік хутар Дрыгба (злева).*

*Капліца абраза воіна Іаана (справа), пастаўлена пажарнымі ў гонар ахвяраў падзеяў 1812 года на Брылёўскім полі і, тыя, хто загінуў у мірны час у барацьбе з агнём.*

*Інстытут перападрыхтоўкі і павышэння кваліфікацыі Міністэрства надзвычайных сітуацый (знізу).*



# Яны былі сярод першых

*Сёння жанчына за рулём нікога не здзівіць. Але на працягу доўгіх гадоў слабы пол сярод шафёраў быў вялікай рэдкасцю. Першай у свеце была немка Берта Бенц – жонка Карла Бенца, стваральніка ў 1886 годзе першага аўтамабіля на бензінавым рухавіку. Праз два гады пасля з'яўлення гэтай навінкі, якая цалкам не была падобна на сучасны аўтамабіль, яна, кіруючы гэтым транспартным сродкам, здзейсніла прабег даўжынёю больш 100 кіламетраў (у памяць аб гэтым Берце Бенц у германскім горадзе Віслохе ўсталяваны помнік).*

А праз 10 гадоў жанчына-шафёр з'явілася і ў Расіі. На жаль, аб ёй нічога невядома, акрамя дзіўнага прозвішча – Кліенцкая.



*Берта Бенц (1849-1944)*

Няма пэўных звестак і аб першай шафёрыцы ў Барысаве, якая з'явілася прыкладна ў 1928 годзе. Па чутках, яе клікалі Ядзя, а па прозвішчы ці то Ржауцкая, ці то Вярбіцкая. Яна раз'язджала на іншамарцы-кабрыялеце ў нязменна чырвонай камсамольскай хустцы, а дзеці заўсёды крычалі ёй услед: "жанчына-шафёр, глядзіце, шафёр-жанчына!..".

Яшчэ большай рэдкасцю былі ў той перыяд і жанчыны, якія працавалі на аўтобусах. У Маскве першай жанчынай за рулём аўтобуса была Лізавета Суворава. Гэта было ў 1932 годзе. А прыблізна ў той жа час маладую дзяўчыну, якая кіравала рэйсавым аўтобусам, убачылі і барысаўцы. Гэта была цёзка Сувоpавай Лізавета Годэс. Яна нарадзілася ў Халопенічах, але, каб набыць надзейную прафесію, пераехала ў Барысаў. Аднак на гэтай працы яна не затрымалася. Пасля заканчэння рабфака Ліза пакінула шафёрскую працу і паступіла ў інстытут, дзе атрымала спецыяльнасць хіміка-тэхнолага.



*Лізавета Годэс (1912-1991)*

Руль аўтобуса мала прыцягвае жанчын. І сярод таксістак іх амаль не відаць. У 2004 годзе ў велізарнай Маскве на таксі працавалі ўсяго шэсць жанчын. А першую жанчыну-таксістку там убачылі ў 1933 годзе. Яе клікалі Тацяна Ціханава. Але першая ў свеце жанчына за рулём таксі з'явілася значна раней - у 1908 годзе ў Берліне. А клікалі смелую даму, што адважылася сесці за руль таксаматора, Элізабэт фон Пап (цікаўна, што тут названыя аж тры Лізы).

Ну, а калі станем казаць пра таксаматоры Барысава, якія з'явіліся пасля вайны, змяніўшы даваенных вазакоў, то шматлікія старажылы горада абавязкова ўспомняць машыну з шашачкамі, за рулём якой больш 25 гадоў знаходзілася Нэлі Шкрэд. Яна атрымала шафёрскія правы яшчэ ў далёкім 1945-м, калі ёй не было яшчэ і 18 гадоў. Спачатку яна доўга працавала на "паўтаратонцы", а грузавая машына для жанчыны – гэта зусім не лёгкі хлеб. Але і праца на таксі таксама не пад сілу кожнай жанчыне. Сітуацыі, якія ўзнікаюць з пасажырамі, часам патрабуюць складаных рашэнняў, асабліва пры зносінах з п'яніцамі, грубіянамі і не жадаючымі расплачвацца.



*Нэлі Шкрэд (1928-2010)*

У агульнай складанасці больш 40 гадоў ураджэнка Зембіна Нэлі Дзям'янаўна Шкрэд знаходзілася за рулём аўтамабіля, і ні аднаго разу яе не спыніў гаішнік, каб зафіксаваць парушэнне правіл дарожнага руху.. За бездакорную працу яе паважалі, хвалілі ў газетах і не раз узнагароджвалі.

Жыла першая і шматгадовая барысаўская таксістка па вул. Чарняхоўскага ў доме, на якім вісіць дошка з імем падпольшчыцы А.Г.Данілавай. Мне здаецца, там напрошваецца і другая мемарыяльная дошка.

***Аляксандр Розенблюм***



# Крушына: уздым і занядбанне

*Перад вамі здымак, на якім бачна чыстае поле, без ніякіх адметнасцей. На першы погляд можа здацца, што пра гісторыю гэтага месца казаць няма чаго. Калі ж запытаецеся пра яго ў жыхароў навакольных пасяленняў, то яны вам распавядуць, што тут раней знаходзілася вёска Крушына, успомняць некаторыя факты з яе гісторыі. У найбольш грунтоўным сучасным выданні, якое прысвечана нашаму краю – кнізе "Памяць", – можна адшукаць толькі назву гэтага пасялення (у спісе населеных пунктаў, якія зараз не існуюць). На старонках нашай газеты былі дзве кароткія публікацыі, якія прысвечаны Крушыне (гл. "ГБ" №2(95) і 3(96) за 2007 год). Сярод крыніц, якія даступны шырокаму колу чытачоў, болей ніякіх звестак пра гэта пасяленне адшукаць немагчыма...*

Аднак знаёмства з дакументамі, якія датычацца Крушыны і знаходзяцца ў фондах нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі, паказвае, што гісторыя гэтага пасялення досыць багатая на падзеі, часам скандальная (асабліва ў сярэдзіне – другой палове XIX стагоддзя). Справы па Крушыне разглядаліся не толькі ў павятовых ці губернскіх інстанцыях, але і ў Вільні, Санкт-Пецярбурзе. З Крушынай звязаны шэраг вядомых людзей. Сярод іх дзяржаўны дзеяч Вялікага княства Літоўскага XVI стагоддзя Леў Сапега, адзін з найбольш значных беларускіх навукоўцаў XIX стагоддзя Генрых Татур, тутэйшыя грамадскія дзеячы і інш. Таму варта спыніцца на гісторыі Крушыны яшчэ раз, прычым значна больш падрабязна, чым у ранейшых публікацыях.

## Вёска

Калі казаць строга, то неабходна асобна вылучаць маёнтак і вёску Крушына (Крушынне, Крушыны). Спачатку спынімся на гісторыі вёскі. Час яе заснавання невядомы. Нагадаем, што яшчэ ў XVII стагоддзі гэтыя землі адносіліся да маёнтка Белічаны (зараз Белічаны – вёска ў Бярэзінскім раёне). У 1662 годзе іх набывае ў Юрыя Ломскага Леў Сапега, але неўзабаве прадае іх за сімвалічную плату віленскаму кляштару базыльянаў.

Найбольш старое дакументальнае сведчанне пра існаванне вёскі Крушына адносіцца да 1773 года. Сярод тагачасных яе жыхароў у старых дакументах згадваюцца Міхалка Гоман, Юрка Таўкачонак, Марцін Каробка, Хвёдар Бондар. Прычым гэта далёка не поўны спіс гаспадароў сялянскіх гаспадарак на той час. Агульная колькасць тагачасных яе жыхароў да нашага часу не захавалася, але гэта было па тых часах сярэдняе па памерах вясковае пасяленне.

У далейшым вёска Крушына памяншалася, і ў 1816 годзе ў ёй было ўсяго тры сялянскія падворкі. У адным з іх жыў удавец Філон Бондар з трыма сынамі і трыма дочкамі. Разам з імі жыла прыёмная дачка і родзіч Філона, удава (якая, відаць, даводзілася яму нейкай сваячкай). На другім падворку жыў Марцін Багдановіч (таксама ўдавец) з трыма дочкамі, братам, зяцем з жонкай і сватам. На трэцім падворку пражываў Раман Зубаў з жонкай. Разам з імі жылі тры дачкі, пляменніца і іх сын з жонкай.

У кожнай з гаспадарак было 2-3 кані (валы), 1-2 каровы, свойская птушка. Акрамя непасрэднай працы на ўласным падворку і панскіх землях сяляне займаліся бортніцтвам, збіралі грыбы, хмель.

Што адбылося потым, дакладна не вядома. Але па стану на 1850 год вёска Крушына ўжо не існавала. Яе былыя жыхары былі пераселены ў вёску Чарневічы.

## Землі фальварка Крушына

На пачатку XIX стагоддзя Крушына з'яўлялася фальваркам маёнтка ў Белічанах. Па стану на 1773 год часткай яго земляў (з вёскай Крушына) валодалі базыльяне, часткай (з вёскай Чарневічы) мітрапаліт Валадковіч. Як адбываліся змены гаспадароў гэтых земляў, дакладна невядома. Аднак у гэты час усе землі фальварка Крушына (які, магчыма, як фальварак і ўзнік менавіта тады) былі аб'яднаны ў адзінае цэлае. Кіраваў маёнткам Белічаны з фальваркам Крушына маёр былога войска Вялікага Княства Літоўскага Ануфрый Масальскі. Аднак ён, хутчэй за ўсё, з'яўляўся толькі арандатарам. Рэальным гаспадаром маёнтка на той час быў Дамінік Радзівіл (дадзеная акалічнасць патрабуе ўдакладнення).

Далейшы лёс Крушыны звязаны не толькі з Масальскім, Радзівілам, але і з Ганнай і Іванам Мезенцавымі. Пра Ганну Мезенцаву, яе блізкіх і тых, хто мае дачыненне да станаўлення (а часам і вынішчэння) Крушыны як маёнтка, варта сказаць некалькі слоў асобна.

## Ганна Мезенцава – лёсавызначальная постаць для Крушыны

Нарадзілася Ганна каля 1788 года. Яна рана выйшла замуж (прозвішча, якое яна насіла да таго, невядома). Яе першы муж – Багдановіч. У іх нарадзіліся сын, якому далі імя Людвіг. Ён вырас, выбраў ваенную службу. 29 траўня 1846 года ён жаніўся. Яго выбранніцай з'яўлялася дачкой калежскага сакратара Аляксея Смекалава, яе звалі Клеапатра. Жыла яна ў павятовым горадзе Новы Аскол (Курская губерня). Паколькі яна была праваслаўнай, Людвіг пры заключэнні шлюбу вымушаны быў змяніць веравызнанне і перайсці з каталіцтва ў праваслаўе. Пры гэтым ён атрымаў новае імя – Аляксандр. У іх сям'і нарадзіліся сын Вадзім (6 красавіка 1847 года) і дачка Ганна (22 студзеня 1849 года). Людвіг (Аляксандр) служыў у драгунскім палку, меў званне маёра. Аднак лёс яго завершыўся трагічна. Ён заразіўся халерай і 15 чэрвеня 1848 года памірае (яшчэ да нараджэння дачкі Ганны). Пахаваны ён быў у Новым Асколе.

Пасля заўчаснай смерці сына Ганна Мезенцава працягвала падтрымліваць сувязь з яго сям'ёй. Больш таго, яна ў ліпені 1850 года прымае рашэнне выплачваць з даходаў маёнтка Крушына да дасягнення ўнукамі паўналецця тры тысячы рублёў серабром. Працэнты ад гэтай сумы яна меркавала штогод дасылаць да 1 студзеня Клеапатры. Так яно і было да паўстання 1863-64 гадоў, калі ўрад настолькі моцна абклаў падаткамі тутэйшую шляхту, што Мезенцава не магла выканаць свой добраахвотны абавязак (хаця ад яго і не адмаўлялася).

Пасля смерці Людвіга (Аляксандра) Клеапатра доўга адной не заставалася, выйшла замуж за Леміхава, пераехала ў Санкт-Пецярбург. Сын Людвіга і Клеапатры Вадзім стаў інжынер-капітанам (такі статус ён меў напрыканцы 70-х – пачатку 80-х гадоў XIX стагоддзя), а дачка Ганна выйшла замуж за надворнага дарадчыка Перхурава і з'ехала жыць у Калугу.

Вернемся да лёсу Ганны Мезенцавай. Ён склаўся так, што з Багдановічам яна доўга не пражыла. У хуткім часе яна ў другі раз выходзіць замуж. На гэты раз – за надворнага дарадчыка Івана Мезенцава. Дзяцей у іх не было.

Другі шлюб Ганны таксама доўга не праіснаваў. У 1816 годзе Іван памірае, і ўсе правы на яго ўласнасць пераходзяць да яе. Ганна была вельмі рашучай і валявой жанчынай. Таму гэта падзея аказалася лёсавызначальнай для Крушыны. Прычым не толькі на бліжэйшы час, але і на далёкую перспектыву. Але распавядзем пра ўсё па парадку.

На пачатку XIX стагоддзя стан спраў у Масальскага ў маёнтку Белічаны быў далёка не лепшым. Таму 23 красавіка 1808 года ён бярэ пазыку ў 500 рублёў серабром у Івана Мезенцава пад абавязак вярнуць яе 8 сакавіка 1809 года. Аднак аддаць грошы ён так і не здолеў. Больш таго, 16 сакавіка 1810 года Масальскі бярэ ў Мезенцава яшчэ адну пазыку. На гэты раз на 10000 рублёў серабром. 5000 з іх яе ён мусіў вярнуць у 1812 годзе, столькі ж у 1814 годзе.

Прайшоў вызначаны час, а Масальскі так нічога і не вярнуў. Іван Мезенцаў так і не дачакаўся да канца сваіх дзён вяртання пазыкі. Але Іван не спаў у шапку і дамагаўся яе вяртання. Ён падае на Масальскага ў суд. 12 лютага 1814 года прымаецца рашэнне пра часовую перадачу фальварка Крушына з вёскамі Крушына, Чарневічы і Баровіна ў карыстанне Мезенцаву для магчымасці пагашэння пазыкі за кошт прыбыткаў ад гаспадарчай дзейнасці. У адпаведнасці з ім 8 красавіка Мезенцавы са сваёй адміністрацыяй канчаткова займаюць фальварак Крушына (рэальна яны ўжо жылі там з вясны 1811 года). Аднак жыць ім тут разам давялося не доўга... 8 траўня 1816 года ўжо ўдава Ганна ўступае ва ўсе правы на любую ўласнасць Івана Мезенцава, у тым ліку становіцца правапераемніцай на іск да Масальскага.

## Ад фальварка да маёнтка

На лёс Крушыны паўплывала не толькі пазыка Мезенцава Масальскаму, але і тое, што сам Мезенцаў быў павінен князю Дамініку Радзівілу 5000 рублёў (з умовай вяртання ў 1809 годзе). Сам жа Дамінік, відаць, не знайшоў агульнай мовы з новай расійскай адміністрацыяй, якая прыйшла на нашы землі пасля другога падзелу Рэчы Паспалітай, і эмігрыраваў з радзімы. Аднак у эміграцыі яму пажыць доўга не давялося, і неўзабаве ён памірае. Доўг Мезенцава так і застаўся нявыплачаным.

Эміграцыя Радзівіла не засталася па-за ўвагай расійскай адміністрацыі, і ўся яго маёмасць была ўзята ў секвестр манаршай казны (ён распаўсюджваўся і на маёнтак Белічаны). У выніку доўг Мезенцава Дамініку Радзівілу пераўтварыўся ў доўг казне. Менскае губернскае праўленне 25 лютага 1814 года прымае рашэнне, якім прадпісваецца ігуменскаму суду яго спагнаць (размова ўжо ішла пра 6050 рублёў асігнацыямі або 1512 руб. 50 кап. серабром) з той сумы, якая вяртаецца Масальскім Мезенцаву за кошт гаспадарчай дзейнасці ў фальварку Крушына.

Цяжка зараз вызначыць усе прававыя акалічнасці дачыненняў паміж расійскай адміністрацыяй і правамі на спадчыну маёмасці Дамініка Радзівіла. Аднак у 1816 годзе ў таксатарска-эксдывізарскім судзе па заяве Ганны Мезенцавай разглядалася тая частка завяшчання Дамініка Радзівіла, у адпаведнасці з якой 5% ад маёнтка Белічаны павінна была перайсці да яе. Прычым гэта быў толькі адзін з пунктаў зыску Ганны. У адпаведнасці з другім пунктам яе патрабаванняў ёй павінны былі кампенсаваць выдаткі за ад-

міністратыўнае кіраванне фальваркам Крушына на працягу пяці год і пяці месяцаў. Праўда, ад патрабаванняў другога пункта Ганна пазней адмовілася.

Суд, пасля разгляду ўсіх акалічнасцяў справы, прыйшоў да высновы, што фальварак Крушына з вёскамі і землямі, якія адносіліся да яго, якраз і адпавядае тым 5% ад усяго маёнтка. Таму 15 жніўня 1816 года ім было прынята рашэнне пра вылучэнне з маёнтка Белічаны фальварка Крушына ў асобны маёнтак і перадачы яго Ганне Мезенцавай. Такім чынам, менавіта гэта рашэнне суда юрыдычна і з'яўляецца пачаткам існавання маёнтка Крушына.

## Час стабільнасці

Ганне Мезенцавай, калі яна стала гаспадыняй у маёнтку Крушына, было каля трыццаці год. За гэтыя гады ёй давялося перажыць вельмі шмат набыткаў і стратаў як у асабістым жыцці, так і ў праве на маёмасць. Лёс ёй наканаваў працяглае жыццё. У далейшым яно і справы ў яе маёнтку ў адрозненне ад папярэдніх гадоў вызначаліся стабільнасцю, не мелі ніякіх значных змен і істотных узрушэнняў.

Ганна болей замуж не выходзіла, жыла адна. Яна мела добрыя дачыненні з іншымі тутэйшымі землеўладальнікамі (што потым адыграла не малую ролю).

Ніхто на гэтай зямлі не вечны. На зыходзе жыцця Ганна Мезенцава прымае рашэнне напісаць завяшчанне. Яно было складзена і адпаведным чынам заверана 9 красавіка 1866 года. На той час яна, відаць, ужо адчувала сябе не лепшым чынам (хаця і знаходзілася "ў здравым розуме і цвёрдай памяці". Сама пісаць ужо не магла, таму гэта рабіў з яе слоў губернскі сакратар Казімір Квяткоўскі. Па яе асабістай просьбе подпіс на завяшчанні паставіў калежскі асэсар Фадзей Скальскі. Яго душапрыказчыкамі (асобамі, якія адказныя за ўвядзенне ў дзеянне завяшчання) былі Віктар Свіда і Браніслаў Ванькові ч (так ўказана ў копіі завяшчання; у іншых дакументах замест Браніслава Ваньковіча другім душапрыказчыкам называецца Станіслаў Рава). Сведкамі напісання завяшчання былі Фердынанд Шаблоўскі і Ёніфат Дамашкевіч. Засведчыў яго ксёндз Фелікс Шукевіч.

Згодна завяшчання ўся нерухомая і амаль уся рухомая маёмасць (у памеры 8000 рублёў серабром) з маёнтка Крушына павінна была перайсці да яе хрэсніка Генрыха Татура. Былой жонцы сына Клеапатры і іх дзецям Вадзіму і Ганне было запісана 3000 рублёў серабром.

Аднак, як Ганна і яе сябры даведаліся потым, 10 снежня 1865 года на найвышэйшым узроўні ў Расіі было прынята рашэнне, якое значна абмяжоўвала правы каталікоў у справе атрымання ў спадчыну нерухомасці. У адпаведнасці з ім Крушына Г.Татуру (ён, як і Ганна Мезенцава, быў каталіком) перайсці не магла. Каб абысці гэтую пастанову, Ганна Мезенцава 29 красавіка 1868 года запрашае да сябе губернскага сакратара Казіміра Квятнавіцкага і з яго дапамогаю да асноўнага завяшчання дадае дадатковае распараджэнне. У ім казалася, што калі ўрад не зацвердзіць Татура як гаспадара маёнтка Крушына, то ён мусіць застацца валодаць ім да ўплаты яму Клеапатрай з дзецьмі Вадзімам і Ганнай 8000 рублёў. Адначасова Татуру павінны былі адыходзіць выкупныя сумы сялян. Самому яму дадатковым распараджэннем дазвалялася да атрымання адзначаных грошай жыць у маёнтку і кіраваць ім.

Напрыканцы жыцця Ганна моцна хварэла, цалкам пазбавілася зроку. На яе лячэнне вылучаліся вялікія грошы. 10 верасня 1868 года Ганны Мезенцавай не стала. Ёй на той час было каля 80 год. Пахавана яна была 14 верасня на могілках у Беразіно. Ксёндз тамтэйшага касцёла Вайноўскі правёў усе неабходныя ў такім выпадку абрады.

## Генрых Татур



*Герб роду Татураў "Дамброва"*

Як бачна, хрэснік Ганны Мезенцавай Генрых Татур мусіў стаць асноўным спадкаемцам Крушыны. Гэты чалавек варты таго, каб пра яго распавесці больш падрабязна. Нарадзіўся ён у Слоніме 17 верасня 1846 года. Яго бацька быў маршалкам тамтэйшай шляхты.

Агульнавядомым Генрых Татур стаў дзякуючы сваёй працы пра зборы і даследаванні старажытнасцей, выяўленні археалагічных помнікаў, асветніцкай дзейнасці. Свае даследчыя працы ён праводзіў у межах Менскай губерні, у тым ліку і на Барысаўшчыне. Шмат даследаванняў ён праводзіў у сумежжы сучасных Барысаўскага і Бярэзінскага раёнаў. Хацелася б адзначыць, што асобныя помнікі, якія былі ў свой час выяўлены і даследаваны Татурам, пасля яго па сённяшні час або болей не даследаваліся, або наогул практычна забытыя (дастаткова згадаць так званыя комплесы "валы", рэшткі дагістарычных збудаванняў і інш.).

Татурам была складзена мапа археалагічных помнікаў Менскай губерні. У 1884-1885 гадах у Беразіно стварыў часовы музей. Пазней музей быў створаны ў Менску. У ім было прадстаўлена каля 600 розных археалагічных знаходак каменнага і бронзавага часу, калекцыя манет, каля 1000 тамоў розных старажытных твораў, некалькі тысяч работ, якія датычацца тутэйшай этнаграфіі і шмат што яшчэ.

Генрых Татур выдаў кнігі "Археалагічнае значэнне Менскай губерні" (1878 год), "Нарысы археалагічных помнікаў на прасторы Менскай губерні і яе археалагічнае значэнне" (1892 год). Яшчэ некалькі кніг былі падрыхтаваны ім у рукапісным выглядзе, але яны так і не ўбачылі свет.

Зышоў з жыцця Генрых Татур у 1907 годзе. Калі казаць пра тутэйшых краязнаўцаў XIX стагоддзя, то ён безумоўна з'яўляўся адным з найбольш адметных з іх.

## Нечаканы тупік

Пасля смерці Ганны Мезенцавай 20 верасня 1868 года Станіслаў Рава падаў завяшчанне і выпіску з Бярэзінскага касцёла аб смерці Мезенцавай у Менскую губернскую злучаную палату крымінальнага і грамадзянскага суда. Яна 1 лістапада 1868 года прыняла завяшчанне да разгляду.

Як і чакалася, згодна з патрабаваннямі згаданай вышэй пастановы ад 10 снежня 1865 года, злучаная палата выключыла магчымасць пераходу маёнтка Крушына да Татура. Аднак нечаканым для яго стала тое, што было адмоўлена і ва ўводзе дадатку да завяшчання. Такое рашэнне было прынята палатай 11 чэрвеня 1866 года. Фармальнай прычынай таму стала невыкананне ў ім патрабаванняў тагачаснага заканадаўства (дадатак быў напісаны не на гербавай, а на простай паперы).

Генрых Татур ніяк не мог змірыцца з такім рашэннем і 13 жніўня таго ж года падае ў палату адпаведную скаргу. Яна разглядалася 21 жніўня. У выніку палата яшчэ раз адмовіла Татуру ва ўводзе завяшчання і пацвердзіла неабходнасць утрымання маёнтка Крушына ў апякунскае кіраванне.

Генрых ідзе далей. Ён складае скаргу ў сенат, які разглядзеў яе 24 жніўня 1870 года. Рашэнне сената было ўручана Татуру 7 верасня. У ім фактычна было пацверджана прынятае Менскай злучанай палатай рашэнне. Аднак у адказе сената пакідалася за Татурам права на хадайнічанне пра выдзяленне з апекі той часткі рухомай маёмасці, пра якую ішла гаворка ў завяшчанні, і перадачу яе яму.

Неўзабаве пасля смерці Ганны Мезенцавай, 27 верасня 1868 года ў маёнтак Крушына прыязджае камісія, якая была прызначана часовым аддзяленнем Ігуменскага паліцэйскага ўпраўлення. Яе задачай было складанне вопісу нерухомай і рухомай маёмасці, якая належала Мезенцавай (што ўяўляў сабой маёнтак на гэты час – тэма для асобнага расповеду, які пойдзе ў іншым матэрыяле ў адным з бліжэйшых нумароў нашай газеты). Вопіс рабілі прадстаўнік Белічанскай воласці старэйшы засядацель Сушынскі, выконваючы абавязкі ігуменскага павятовага страпчага Саргутовіч і прыстаў 3-а стана Бохан. Непасрэдна ацэнку рабілі Казімір Любоцкі і Уладзімір Сіцэўка (па меркаванні Бохана, ацэнка маёнтка ў вопісе была завышана, пра што ён зрабіў адмысловы запіс). Сведкамі пры складанні вопісу былі памешчыкі Адам Ваньковіч і Станіслаў Рава.

Генрых Татур аказаўся не адзіным прэтэндэнтам на спадчыну Мезенцавай. У 1869 годзе былая жонка яе сына Клеапатра Багдановіч падала заяву ад свайго імя і ад імя сваіх дзяцей Вадзіма і Ганны ў Ігуменскі павятовы суд з просьбай зацвердзіць яе ў правах спадчыны на маёнтак Крушына. Прычым яна ў прыватнасці матывавала свае дзеянні тым, што яна (і дзеці) праваслаўныя. Таму на іх не распаўсюджваецца пастанова ад 10 снежня 1865 года і няма ніякіх падставаў у адмове ёй у перадачы маёмасці. Больш таго, яна прасіла выселіць з Крушыны Татура і перадаць маёнтак у апякунскае кіраванне праваслаўнай памешчыцы з Машчаніцы Аляксандры Мяржынскай (з наданнем ёй права выбраць суапекуна).

Аднак Клеапатра падала свае дакументы пазней за вызначаны заканадаўствам тэрмін у палову года. Акрамя таго, яна не прадставіла ўсе неабходныя дакументы, якія сведчаць пра ступень сваяцтва да Мезенцавай. 8 снежня 1869 года Ігуменскі павятовы суд разглядаў яе справу. На падставе вышэй адзначаных прычын ёй і яе дзецям было адмоўлена ў зацверджанні іх у правах спадкаемцаў Мезенцавай. Аднак ім было прадстаўлена права на працягу 10 год распачаць справу па прызнанні іх правоў на спадчыну.

Такім чынам, па стану на 1869 год Татур хаця рэальна і пражываў у Крушыне, але ні ён, ні былая жонка сына Мезенцавай так і не здолелі ўступіць у правы на спадчыну. Уся былая маёмасць Мезенцавай на пэўны час павісла ў паветры.

Фактычна такая сітуацыя расцягнулася на шмат год, нягледзячы на тое, што Менская злучаная палата сваім рашэннем ад 18 жніўня 1870 паспрабавала яе спыніць. Тады было прынята рашэнне прадставіць права ўступіць у спадчыну на маёнтак Крушына Клеапатры і яе дзецям. Паколькі яна і дзеці пражывалі ў далечыні ад Беларусі, тым жа рашэннем палаты была адзначана неабходнасць утрымання Крушыны дваранскай апекай.

## Тым часам...

Генрых Татур адразу пасля смерці Мезенцавай перасяліўся ў Крушыну і пачаў кіраваць яе гаспадаркай. Таму пры складанні вопісу маёнтка (пра які гаворка ішла вышэй) яго копію ў якасці рэальнага гаспадара прымаў менавіта ён.

Магчыма, часткова па гэтай прычыне Ігуменскі павятовы суд сваім распараджэннем вызваляе маёнтак Крушына ад апекі. Аднак 22 лістапада 1868 года павятовая апека ўсё ж звяртаецца ў Ігуменскі суд з просьбай прызначыць у Крушыну апекуна. Суд 10 снежня 1868 года падтрымлівае гэту прапанову і прымае рашэнне пра перадачу маёнтка Крушына да яўкі наследнікаў у "ведзенне" павятовай дваранскай апекі.

Ужо на наступны дзень 11 снежня дваранскае апека прымае рашэнне пра прызначэнне апекуном у Крушыну Станіслава Раву (таго самага Раву, які быў сябрам Мезенцавай, шмат дапамагаў у яе лячэнні, з'яўлялся яе душапрыказчыкам). Ён, відаць, зусім не жадаў пераходзіць дарогу Татуру і таму падаў у апякунскае праўленне заяву пра вызваленне яго ад гэтага абавязку. Пры гэтым ён прадставіў медыцынскую даведку пра сваю хваробу. 13 траўня 1869 года дваранская апека разглядзела дадзенае прашэнне.

...8 снежня 1869 года на Ігуменскай дваранскай апецы слухаўся рапарт засядацеля павятовага суда Вішнеўскага ад 23 лістапада. Справа ў тым, што згодна чарговага прадпісання апекі маёнтак Крушына павінен быў быць адданы ў апякунскае кіраванне памешчыку Дзёгену (?) Інглінку. Аднак у Крушыну на прыём па вопісу маёнтка ён не з'явіўся. Інглінка пазней растлумачыў гэта сваёй хваробай і даслаў у апякунскае праўленне медыцынскую даведку, якая была падпісана павятовым лекарам Казакевічам. З яе вынікала, што ён (Інглінку тады было 56 год) хварэў растройствам дыхальных органаў (і не толькі), што не дазваляла прыняць апякунскія абавязкі. Праўленнем было прынята рашэнне замест Інглінкі прызначыць апекуном у Крушыну Івана Казіміравa. Засядацелю Вішнеўскаму было прапанавана як мага хутчэй перадаць яму Крушыну па вопісу. Але ён таксама не прыняў апякунства.

...Ішоў час. Становішча вакол прыняцця ў апякунскае кіраванне маёнтка Крушына прынцыпова не змянялася. 17 сакавіка 1870 года Ігуменская дваранская апека піша чарговы рапарт у Менскую злучаную палату крымінальнага і грамадзянскага суда. У ім распавядалася, што павінна была адбыцца перадача ў апякунскае кіраванне маёнтка Крушына ў прысутнасці прыстава трэцяга стану Бахана. Аднак перадача не адбылася, бо чарговы прызначаны праўленнем апякун Іван Тоўсцік хоць і быў запрошаны ў маёнтак Крушына, але так туды і не з'явіўся. Больш таго, ён наогул адмовіўся прыняць апякунства. Свой учынак ён растлумачыў непісьменнасцю і хваробай. Пры гэтым ён паабяцаў прадставіць у апякунскае кіраванне адпаведную медыцынскую даведку.

Ігуменская дваранская апека прымае рашэнне прызначыць апекуном у Крушыну замест Тоўсціка Восіпа Асіеўскага. Вішнеўскаму прадпісана перадаць пры садзейнічанні мясцовай паліцыі па вопісу гэты маёнтак ў апеку Асіеўскаму. Прычым як мага хутчэй. Апека папярэдзіла Вішнеўскага, што калі перадача зноў не адбудзецца, то ўсе наступствы адказнасці за гэта лягуць найперш на яго.

У выніку мер, якія былі прыняты, маёнтак Крушына ўсё ж быў перададзены ў апеку Асіеўскаму. Адбылося гэта 18 жніўня 1870 года.

Пасаду апекуна Восіп Асіеўскі займаў менш за тры гады. З 19 траўня 1873 года да завяршэння апекі яе займаў Станіслаў Скуратовіч.

## Працяглае супрацьстаянне

Праваое змаганне паміж Генрыхам Татурам і Клеапатрай з дзецьмі расцягнулася на шмат год. Нягледзячы на тое, што судовае рашэнне было на яе карысць, ні прыбыткі ад маёнтка, ні грошы ад выкупу сялянамі зямлі, яна не атрымлівала. Таму наперадзе быў чарговы судовы працэс, які распачала Клеапатра. Яна на той час ужо паўторна выйшла замуж і насіла прозвішча Леміхава. Яе дзеці да таго часу ўжо сталі дарослымі. Дачка Ганна выйшла замуж, сын Вадзім стаў інжынер-капітанам.

Паколькі Клеапатра і яе дзеці жылі далёка ад нашага краю, іх правы на судовым працэсе прадстаўляў прысяжны паверaны стацкі дарадчык Адам Камёнка (які, як і Клеапатра, жыў у Санкт-Пецярбурзе). Распачаўся працэс 19 верасня 1878 года, калі ад імя Леміхавай і яе дзяцей Камёнка падаў іск у Менскую злучаную палату крымінальнага і грамадзянскага суда на Генрыха Татура і тагачаснага апекуна маёнтка Крушына Станіслава Скуратовіча. У іску заклікалася ўсе выкупныя пазыкі і прыбыткі з маёнтка з моманту стварэння апекі прызнаць уласнасцю Леміхавай і яе дзяцей (варта нагадаць, што ў завяшчанні Мезенцавай ішла гаворка пра перадачу ім у спадчыну толькі нерухомай маёмасці маёнтка). Акрамя таго, выказвалася просьба спагнаць з Татура ўсе страты, якія нібыта нанёс ім ён з-за пражывання ў Крушыне з моманту смерці Мезенцавай і карыстання ўсімі "выгодамі" і прыбыткамі маёнтка.

У гэтым працэсе Генрых Татур непасрэдна не ўдзельнічаў. Яго інтарэсы прадстаўляў ротмістр Іван Држневіч.

3 ліпеня 1871 года было абвешчана рашэнне суда, у адпаведнасці з якім Леміхавай і яе дзецям у асобе Камёнкі было дадзена права спагнаць страты ад пражывання Татура ў Крушыне і накладзены арышт на выкупную суму.

Генрых Татур не раз звяртаецца ў Менскае "присутствие" па сялянскіх справах (у 1873, 1875, 1877 і іншых гадах) з просьбай выдаць яму выкупную суму з маёнтка Крушына. Аднак кожны раз атрымлівае адмову.

15 траўня 1879 года Менская злучаная палата прымае рашэнне канчаткова прысудзіць ва ўласнасць маёнтак Крушына Леміхавай і К і ўсё, што з ім звязана. У выніку паўстала пытанне яго перадачы ад апекуна Станіслава Скуратовіча новым гаспадарам. Праз пэўны час Ігуменская павятовая апека паведаміла паверанаму Леміхавай і К Г.Чапоўскаму, што ён можа прыняць маёнтак ад апекуна.

У кастрычніку 1881 года Чапоўскі з'явіўся ў засценку Крупа, дзе жыў апякун. Аднак ён не толькі не застаў Скуратовіча, але і не змог даведацца ад яго сям'і, дзе ён і калі вернецца. У выніку паверaны Леміхавай і К так і не змог нічога вырашыць і вымушаны быў вярнуцца дадому. Каб хоць неяк выйсці з дадзенага становішча ён паведаміў пра сітуацыю, якая склалася, у павятовую дваранскую апеку, прасіў лічыць яе, што маёнтак ім прыняты. На ўсякі выпадак ён выставіў сваіх вартаўнікоў для аховы маёнтка і яго лесу.

Апека не прыняла довады Чапоўскага і заявіла, што маёнтак павінен быць прыняты па вопісе. Чапоўскі паспрабаваў абскардзіць рашэнне апекі ў Менскай злучанай палаце, але безвынікова.

Пазней апекун паўторна здолеў схавацца ад перадачы маёнтка.

Тым часам сітуацыя з кіраваннем маёнтка Крушына была наступная. Скуратовіч са згоды павятовай апекі заключыў дамову на арэнду маёнтка Генрыхам Татурам. Праз пэўны час ён быў перазаключаны на мяшчанку Дар'ю Курневіч. Яна з'яўлялася грамадзянскай жонкай Генрыха Татура. Цяжка сказаць дакладна, чаму яны не заключылі афіцыйны шлюб. Найбольш верагодна тое, што Генрых на гэта не пайшоў, бо быў бы вымушаны ў гэтым выпадку змяніць веравызнанне (Дар'я была праваслаўнай), што яго ніяк не задавальняла.

*(Працяг будзе)*

*Міхась Мацельскі*





*Жанчыны – дабравольцы (зверху).*

*Касіянеры, 1920 год (злева).*

*Ліпеньскае наступленне 15-й армії Заходняга фронта (знізу).*

# Савецка-польская вайна на Барысаўшчыне

*(Працяг, пачатак у №2-8(155-161) за 2012 год)*

Камандаванне 16-й арміі, перш чым прыступіць да аперацыі, меркавала зрабіць змену 10-й стр. дывізіі на яе ўчастку 2-й стр. дывізіяй, якая прыбывала ў яго распараджэнне. Відавочна, у сілу гэтых прычын пачатак аперацыі 16-й арміі пераносіўся на ноч з 6 на 7 ліпеня.

Камандарм 16-й меркаваў фарсіраваць Бярэзіну на ўчастку ад вусця р. Ровы да вусця р. Клевы. Задача фарсіравання ракі на гэтым участку ўскладалася на тры дывізіі, а адна дывізія павінна была застацца ў вайсковым рэзерве. Нанясенне галоўнага ўдару меркавалася ў кірунку Смалявічы-Менск, з энергічным наступам левафлангавых частак арміі ў кірунку Талька-Асіповічы з мэтай перарэзаць чыгунку Бабруйск-Менск.

6 ліпеня Тухачэўскі, калі ўжо быў прадвызначаны разгром польскіх войскаў і пачаўся іх адыход на маладзечанскім кірунку, усталяваў размежавальныя лініі паміж войскамі 3-й і 16-й армій - воз. Пялік – р. Бярэзіна да р.Гайна – р.Гайна да вусця р. Домля – р. Домля, усе гэтыя пункты ўключна.

У ноч з 6 на 7 ліпеня часткі 16-й "чырвонай" арміі фарсіравалі Бярэзіну паўднёвей Барысава на ўчастку 45 км і адразу паспяхова захапілі значную прастору на яе заходнім беразе. Гэта пагоршыла становішча польскіх войскаў. Паколькі 1-я польская армія адыходзіла, то і 4-ая армія Леанарда Скерскага пачала адступаць.

У наваколлях Менска палякі стварылі лінію абароны, якая праходзіла праз вёскі Заранка, Азярышча, Баравая, Дражня, Вялікае Сунклева. Тут яны выкапалі акопы, размясцілі батарэі і кулямётныя гнёзды, усталявалі драцяныя загароды. 11 ліпеня, пасля магутнай артпадрыхтоўкі, войскі 16-й "чырвонай" арміі пайшлі ў наступленне. У двух месцах, у раёне Азярышча і Дражні, чырвонаармейцы ўварваліся на польскія пазіцыі, і абарона была прарваная.

Да канца дня 11 ліпеня 16-я армія авалодала Менскам, і ёй было загадана наступаць уздоўж Аляксандраўскай чыгункі.

"Чырвоныя" занялі Вільню (14 ліпеня), Маладзечна (15 ліпеня), Баранавічы і Горадню (19 ліпеня), Пінск (23 ліпеня), Берасце (1 жніўня), пасля чаго пачалося наступленне ўглыб этнічнай Польшчы. Надламаны Польскі фронт, аслаблены паслядоўнымі ўдарамі "чырвоных" войскаў, працягваў амаль беспынна адкочвацца на Захад.

Тухачэўскі планаваў узяць Варшаву не пазней сярэдзіны жніўня. Захоп польскай сталіцы і знішчэнне Польшчы ён лічыў пралогам да ўсеагульнай пралетарскай рэвалюцыі, што па сваім значэнні не саступала Кастрычніцкаму перавароту. Ён жадаў увайсці ў гісторыю.

Разам з адыходзячымі польскімі войскамі ратавалася ўцёкамі і польскае насельніцтва. Яно ведала, што ў адваротным выпадку асуджанае на немінучую згубу ад рук камісараў і чэкістаў.

## Заключэнне

Чырвоная армія ўпарта рухася на Захад. Ужо 13 жніўня разгарнуліся крывапралітныя баі на подступах да Варшавы. Але становішча на Вісле складалася не на карысць Тухачэўскага. Галоўнае польскае камандаванне, абапіраючыся на часткі, сфармаваныя з добраахвотнікаў, і атрымаўшы нямала зброі ад Антанты, рыхтавала магутнае наступленне.

Да сярэдзіны жніўня, перагрупаваўшы войскі, Пілсудскі стварыў магутную групоўку, названую Сярэднім фронтам. У суме набралася каля 100 тысяч чалавек. 15 жніўня Пілсудскі ўступіў у камандаванне Сярэднім фронтам і прыбыў у яго штаб у Пулавах на правым беразе Віслы.

Раніцай 18 жніўня ў наступленне перайшлі ўсе польскія войскі, паспяхова пераадольваючы адчайны супраціў "чырвоных".



На працягу пяці дзён войскі Заходняга фронту былі акружаны і разгромлены. Польскія гісторыкі назвалі тое, што адбылося, "цудам на Вісле", савецкія – "Варшаўскай катастрофай". Бітва за Варшаву ўвайшла ў гісторыю як адна з найвялікшых бітваў XX стагоддзя. Яна надоўга спыніла пачатыя спробы камуністаў рушыць у Еўропу.




Перад палякамі знаходзіліся дэмаралізаваныя астаткі пабітых "чырвоных" войскаў Заходняга фронту. Шлях на ўсход быў адкрыты.

У пачатку кастрычніка польскія войскі занялі Маладзечна і Слуцак. А 11 кастрычніка амаль без бою ўвайшлі ў Менск.

12 кастрычніка было заключана перамір'е. Пачынаючы з бітвы за Варшаву і да спынення агню польскія войскі захапілі звыш 70 тысяч палонных, каля 330 прылад, больш тысячы кулямётаў. Агульныя страты "чырвоных" забітымі, параненымі, палоннымі, інтэрнаванымі склалі больш 150 тысяч чалавек.

Па ўмовах перамір'я мяжа ў Беларусі праходзіла прыкладна там, дзе ў 1915 годзе ўсталяваўся руска-германскі фронт.

У чыста ваенных адносінах разгром "чырвоных" войскаў адбыўся па віне камандавання Заходнім фронтам. Стаўка Тухачэўскага на тое, што "у рэвалюцыйнай вайне адвага і энергія дамінуе над усім астатнім" межавала з авантурызмам.

Але ўсё ж галоўная прычына паразы была ў тым, што палякі першым чынам абаранялі сваю Айчыну, свой касцёл, свой лад жыцця – простыя еўрапейскія каштоўнасці. Прымітыўная камуністычная агітацыя, якая сеяла класавую нянавісць, у Польшчы не знайшла спрыяльнай глебы. Польскія пралетары "братоў па класе" не прызнавалі. Удзельнік падзей 1920 года пазней успамінаў: "Рэўкамы прыволжскіх і данскіх дывізій праклaміравалі савецкую ўладу па-руску і на жаргоне. Для большасці палякаў пытанне выглядала проста: спачатку Польшча, а потым паглядзім якая". Насельніцтва ўспрымала з'яўленне рускай "чырвонай" арміі як новую спробу паставіць палякаў на калені. Яны не жадалі "чацвёртага" падзелу Польшчы.

Заклік да абароны краіны і касцёла ад рускіх бязбожнікаў-бальшавікоў з'яднаў сялян і шляхту, працоўных і буржуа, пілсудчыкаў-сацыялістаў, нацыянал-дэмакратаў і кансерватараў-клерыкалаў. З рэзервістаў фарміраваліся новыя падраздзяленні і воінскія часткі. А генерал Юзэф Галер фарміраваў добраахвотніцкае войска. Толькі з 24 ліпеня па 15 верасня(за 7 тыдняў) 1920 года на фронт пайшло каля 170 000 палякаў, не лічачы больш за 100-тысячную Добраахвотніцкую армію (у ёй было шмат замежных грамадзян, непаўнагадовых, а таксама жаночыя падраздзяленні).

Агульная колькасць польскіх войскаў дасягнула 1 мільёна 200 тысяч чалавек.

Гэтыя лічбы сведчаць, што польскі народ устаў на абарону сваёй краіны ад рускіх "чырвоных" заваёўнікаў. Сапраўды, гэтая вайна стала для палякаў Айчыннай.

Асобна хочацца спыніцца на праблеме "савецкіх" палонных.

Сучасныя расійскія гісторыкі ў сваёй большасці паўтараюць лічбы, агучаныя наркамам замежных спраў РСФСР Чычэрыным: "...за паўтара года ў палон да палякаў патрапілі каля 110 тысяч, прычым 60 тысяч памерлі ў лагерах для ваеннапалонных, больш за ўсё – у лагеры Тухоля (22 тысячы)".

Польскія гісторыкі, вывучаючы свае архівы, сцвярджаюць, што ў палоне было не больш 100 тысяч чырвонаармейцаў, з якіх памерла да 24 тысяч.

Ісціна дзесьці пасярэдзіне. Польскае грамадства гаруе аб 22 тысячах палякаў, што загінулі ў Катыні, але зусім не жадае ўспамінаць аб 40 тысячах (сярэдняя лічба паміж дадзенымі расійскіх і польскіх гісторыкаў) байцоў РКЧА, памерлых ад голаду, холаду і здзекаванняў. А сярод іх было шмат і нашых суайчыннікаў – былых беларускіх дэзерціраў, адлоўленых спецатрадамі камісараў Тухачэўскага. Успомніце: "На працягу чэрвеня было знойдзена каля 100 тыс. дэзерціраў, што ў два з паловай разы перавысіла нашы надзеі". Я падзяляю меркаванне вядомага палітычнага дзеяча Расіі Амана Тулеева: "Трагедыя палонных чырвонаармейцаў у канцлагерах Польшчы адэкватная трагедыі яе афіцэраў у Катыні" ("Камсамольская праўда" ад 9 лістапада 2006 года).

У гістарыяграфіі СССР Савецка-польская вайна была цалкам закрытая тэма, пачынаючы з канца 20-х гадоў. На гэта ёсць шэраг прычын.

Першая. Падзеі лета 1920 года на практыцы паказалі, што ідэі бальшавікоў "Пралетары ўсіх краін, злучайцеся" на практыцы апынуліся хібнымі. Развіты працоўны Еўропы ідэю камунізму не ўспрымаў, а ішоў і запісваўся добраахвотнікам да генерала Галера, каб дапамагчы маладой польскай клерыкальнай дэмакратыі. А гэта ставіла пад сумнеў мэтазгоднасць пабудовы сусветнай камуны. А яшчэ пазней, у 1941 годзе пралетары Германіі весела крочылі на Усход і з нямецкай педантычнасцю арганізавалі масавае знішчэнне "братоў па класу" у лагерах смерці.

Другая. "Бацька ўсіх народаў" Іосіф Сталін, член Рэўваенсавета Паўднёва-заходняга фронту, быў напрамую датычны да хібнага выбару накірунку наступлення фронту. Сталін настаяў на наступленні на Львоў, а не на Варшаву па палітычных меркаваннях. Узяцце Львова адчыняла шлях бальшавіцкай экспансіі на Вугоршчыну і Румынію. Таму з канца ліпеня Заходні фронт "саветаў" апынуўся адзін на адзін з галоўнай групоўкай Пілсудскага – Сярэднім фронтам.

Трэцяя. Шматлікія военачальнікі Савецка-польскай вайны – Троцкі, Тухачэўскі, Камянеў, Корк, Салагуб і многія, многія іншыя былі рэпрэсаваны сталінскім рэжымам. Што таксама дало падставу "забыцца" на цэлую вайну.

На тэрыторыі Барысаўскага раёна няма ні аднаго салдацкага пахавання 1919-1920 гадоў, ні рускага, ні польскага. Хоць страты за год Бярэзінскага супрацьстаяння і двух наступаў "чырвоных" былі вялікія. Мая бабуля Е.К.Каралёнак (1906 г.р.), жыхарка вёскі Бытча, успаміналa: "Камуністы пайшлі на захад, а па рацэ плыло многа трупаў, некаторыя ўздуліся і віселі на карчах". Дзе іх пахавалі, на жаль, яна не ўспомніла. Мая маці Д.Н.Кішчанка (1930 г.р.) распавядала, што каля Бытчанскіх могілак на полі, на грудзе каля прафілакторыя пластмасавага завода была магіла камісара. Стаяў драўляны абеліск з зоркай і расла бяроза. Маці і іншых даваенных піянераў вадзілі на магілу і распавядалі пра героя камісара, які загінуў у баі на Бярэзіне. Падчас нямецкай акупацыі магілу разбурылі і пасля вайны не аднавілі, хапала "новага" гора.

Карыстаючыся старонкамі "Гомана Барысаўшчыны", звяртаюся да чытачоў аб сумесным пошуку слядоў "Савецка-польскай" вайны 1919-1920 гадоў на Барысаўшчыне.

***Уладзімір Кішчанка,***
***гісторык, супрацоўнік Барысаўскай цэнтральнай раённай бібліятэкі імя І.Х.Каладзеева***

# Старога шляху болей няма...

*Старыя шляхі ў нас не прынята лічыць помнікамі. Таму яны не падлягаюць ахове. Магчыма, што гэта не зусім правільна.*

Паміж вёскамі Чарневічы і Мурава існаваў стары шлях. Асабіста мне раней не раз даводзілася ім карыстацца. Аднак так склалася, што ўжо больш як дзесяць год не было патрэбы па ім ездзіць. Сёлета зноў узнікла неабходнасць скарыстацца ім.

Гэты шлях не мае вельмі старой гісторыі. Ён быў створаны ў 1915 годзе. Для яго будаўніцтва прыцягвалі сялян навакольных вёсак. Быў зроблены насып, абапал якога выкапаны раўкі. Замест старой віхлястай лясной дарогі быў зроблены практычна прамы шлях паміж названымі вышэй пасяленнямі. Пасля завяршэння будаўніцтва мясцовыя жыхары яшчэ працяглы час называлі гэты шлях не інакш як "шаша".

Шлях адыгрываў важную ролю, бо злучаў шэраг вёсак на поўдні Барысаўшчыны з перавозам праз Бярэзіну да Чэрнеўкі. У далейшым, калі тут праз галоўную раку нашага краю быў пабудаваны мост, яго значэнне яшчэ больш павялічылася.

Здавалася, гэтаму шляху было наканавана добрая будучыня. Аднак... Сітуацыю змяніла адна бюракратычная акалічнасць. Вёскі Чарневічы і Мурава ў савецкі час апынуліся па розныя бакі межаў раёнаў, а дарога апынулася на мяжы адміністрацыйных адзінак. Тым, хто шмат ездзіць па Беларусі, не трэба тлумачыць, да чаго гэта магло прывесці. Ад Мурава была ўдасканалена дарога ў іншы бок – да іншых вёсак Бярэзінскага раёна (з выхадам на раённы цэнтр). У Барысаўскім раёне тут болей не было пасяленняў, таму дарога мясцовым чыноўнікам была непатрэбнай. Тым не менш мясцовыя жыхары (ды і не толькі) працягвалі ёй карыстацца, яна ніколі не зарастала.

Усё змянілася некалькі год таму, калі сюды прыйшлі лесанарыхтоўшчыкі (шалёная высечка лесу, асабліва на мяжы Барысаўскага і Бярэзінскага раёнаў – гэта тэма для асобнай размовы). Ля шляху адна за адной пачалі ўзнікаць дзялянкі. Зразумела, што ўсё гэта рабілася цяжкай тэхнікай, якая выкарыстала стары шлях у сваіх мэтах. Лесавозы ўшчэнт вынішчылі частку былога шляху (тую, што бліжэй да Мурава). Больш таго, дарогі ў тым месцы былі зменены з улікам патрэбаў лесанарыхтоўшчыкаў. Такім чынам, зараз па частцы старога шляху не толькі немагчыма праехаць (у выніку яна зарастае і праз некалькі год знікне наогул), але месцамі ён наогул быў знішчаны.

Калі сутыкаешся з такімі рэчамі (а прыведзены прыклад далёка не адзіны), то міжволі ўзнікае агідная стаўленне да нашай галіны лесанарыхтоўкі (хаця агулам так меркаваць усё ж пэўна не будзе правільным). Яна не толькі разам высечкай лесу знішчае дзеля асабістых выгод экасістэму, але і часта бяздумна вынішчае і тое патрэбнае людзям, што трапляе на яе шляху. Тое, што зроблена нашымі папярэднікамі і чым мы карыстаемся па сённяшні час. Яскравым прыкладам таму і з'яўляецца лёс старога шляху паміж Чарневічамі і Муравам.

*Алесь Барэвіч*



*Сяміканцовая зорка(знізу).*



*На камені маецца чатыры адтуліны, якія размешчаны папарна (зверху і справа).*

# Загадкавы камень

*У лясах Барысаўшчыны можна сустрэць шмат камянёў са слядамі апрацоўкі, з рознымі знакамі. Далёка не заўсёды мы можам растлумачыць іх сэнс, а таксама тое, якую ролю адыгрываў той ці іншы валун у кульце ці нейкай іншай сферы жыцця нашых продкаў.*

Ужо не раз на старонках нашай газеты мы пісалі пра падобныя камяні. Сёння расповед пойдзе пра адзін з іх, які знаходзіцца непадалёк ад Барысава. Адшукаў яго і паказаў нам Алесь Панцялей.

У гэтым камені звяртае ўвагу, па-першае, форма. Яна часткова натуральная, часткова падпраўлена людзьмі. Ён мае форму блізкую да конуса з закругленым нізам. Але гэта не самае адметнае ў ім. Па-другое, у ім маецца чатыры прасвідраваныя адтуліны, якія размешчаны без бачнай заканамернасці (па дзве паралельныя адтуліны ў двух месцах). Кожнае з іх мае розную глыбіню. Найбольшая з іх уходзіць у глыб каменя больш чым на 30 сантыметраў. Па-трэцяе, на ім маецца выразна высечаная сяміканцовая зорка.

На жаль, ніхто з мясцовых жыхароў нічога не можа распавесці пра гэты валун. Цяжка здагадацца пра прызначэнне адтулінаў, але тое, як яны зроблены, уражвае. Нельга выключаць магчымасці, што гэты камень хацелі знішчыць (але па нейкай прычыне гэтыя планы не былі рэалізаваныя), і адтуліны прызначаліся для закладкі пораху. Так нярэдка рабілі ў савецкія часы, калі знішчалі былыя культавыя камяні. А тое, што ён быў такім, выглядае вельмі праўдападобным. Так, сяміканцовая зорка вельмі падобна на сляды, якія высякаліся ў старажытнасці на камянях – следавіках.

Якое б не было тлумачэнне форме каменя, яго адтулінам і зорцы, ён, безумоўна, адыгрываў важную ролю ў жыцці жыхароў навакольля. Хацелася б спадзявацца, што рана ці позна мы зможам даведацца пра гэта больш падрабязна.

*Міхась Мацельскі*

# Помнік на Бярэзіне, народжаны двойчы...

*Да 100-гадовага юбілею ваеннай кампаніі 1812 года Расія падыходзіла грунтоўна, з імперскім размахам. У Менскай губерні таксама думалі, дзе і як адзначыць юбілейныя імпрэзы. Тутэйшыя археолагі выказалі прапанову, што цэнтральныя імпрэзы павінны адбыцца на Барысаўшчыне. Барысаў, Студзёнка і Брылёўскае поле – месцы знакавыя; тут, на Бярэзіне, войска Напалеона знайшло сваю канчатковую пагібель, і тут, як лічылі, пахаваныя пад курганамі ў братэрскіх магілах загінуўшыя расійскія воіны. Але вось нядача, адсутнічаюць помнікі, а без іх мемарыяльны комплекс і не комплекс зусім. Выправіць гістарычную несправядлівасць узяліся воінскія падраздзяленні расійскага імператарскага войска – праваперaемнікі палкоў, удзельнікаў бітваў на Бярэзіне ў лістападзе 1812 года.*



Ініцыятарам узвядзення помніка на Брылёўскім полі выступіў 108-ы пяхотны Саратаўскі полк, які дыслацыраваўся ў Вільні. У радаводзе палка значыцца 12-ы Егерскі полк, удзельнік бітвы 28 (16) лістапада ў Стахаўскім лесе на правабярэжжы Бярэзіны. Пачын камандзіра Саратаўскага палка палкоўніка Е.А.Міладанавіча знайшоў водгук у шэрагах 112-а пяхотнага Уральскага палка, месцам дыслакацыі якога была Сувалкская губерня (цяпер у Польшчы). У радаводзе гэтага палка быў 10-ы Егерскі полк, які змагаўся побач з 12-ым палком.

Паміж тым, існавала другая група воінскіх падраздзяленняў, якая пажадала ўдзельнічаць ва ўвекавечанні подзвігу расійскіх салдатаў і афіцэраў на Бярэзіне. На Саборным пляцы Барысава планавалася ўзвядзенне абеліска па праекце пецярбургскага архітэктара І.А.Фаміна. Цікава, што ў кнізе беларускага даследніка У.Г.Краснянскага "Барысаў і Барысаўскі павет у Айчынную вайну 1812 года"(Горадня, 1914) сярод пералічаных воінскіх падраздзяленняў таксама прысутнічае 112-ы пяхотны Уральскі полк. Гэтую групу ўзначальваў палкоўнік Ю.Ю.Капытынскі – камандзір 93-а пяхотнага Іркуцкага Яго Імператарскай Высокасці Вялікага Князя Міхаіла Аляксандравіча палка (дыслацыраваўся ў Пскове). У радаводзе Іркуцкага палка значыўся 7-ы Егерскі полк, які праславіўся ў бітве за Барысаўскі тэт-дэ-пон і Барысаў 21 (9) лістапада 1812 года.

Штаб 4-а вайсковага корпуса ў Менску (адносіўся да Віленскай вайсковай акругі), які распараджаўся пытаннямі па ўвекавечанні памяці загінуўшых воінаў на падкантрольнай тэрыторыі, прапанаваў камандаванню Іркуцкага палка прыняць удзел у пабудове помніка ў Брылях. Неўзабаве ад палкоўніка Ю.Ю.Капытынскага прыйшоў станоўчы адказ і гатоўнасць вылучыць 100 з 200 рублёў, сабраных раней на ўзвядзенне абеліска ў Барысаве. Будаванне помніка ля Брылёў патранавала адмысловая камісія на чале з камандзірам 108-а пяхотнага Саратаўскага палка палкоўнікам Е.А.Міладанавічам. Адзін з членаў камісіі, капітан таго ж палка І.К.Дземякоў, выканаў праект абеліска. Месца для яго ўстаноўкі было абрана на ўзвышшым прывабным беразе Бярэзіны, адкуль адкрывалася выдатная панарама на даліну ракі і Студзёнку. Але галоўным фактарам у выбары месца быў не выгляд, а курганная група з 10-12 курганоў. Тут, ля паўночнай ускраіны шырокага Брылёўскага поля, які межаваў з лясным масівам, што прасціраўся да вёскі Вялікае Стахава, і планавалася ўзвесці абеліск. Заставалася ўрэгуляваць зямельнае і фінансавае пытанні. Першае вырашылася без адмысловых цяжкасцяў. Ад уладальнікаў маёнтка вялікіх князёў М.М. і П.М.Раманавых пярэчанняў не было, а мясцовыя сяляне, уласнікі зямельных надзелаў, неабходны ўчастак далі бязвыплатна. Другое пытанне запатрабавала дадатковага збору грашовых сродкаў. Справа ў тым, што каштарысны кошт прац па праекце склаў 1 тыс. рублёў, а сабраны быў нераўнамерны мі долямі толькі 601 рубель. Вырашана было суму, якая адсутнічае, дабраць. Іркуцкі полк вылучыў дадатковых 50 рублёў. Малая доля грашовага ўдзелу палка тлумачыцца тым, што прыярытэт заставаўся за помнікам у Барысаве, на які акрамя ўжо згаданых 100 рублёў агульным зборам афіцэраў быў зацверджаны вылік па 3 рублі з кожнага, а сярод ніжніх чыноў зроблены кубачны збор.

29 (16) лістапада 1912 года, роўна ў дзень стогадовых угодак Бярэзінскай бітвы, адбылася ўрачыстая цырымонія закладкі помніка, на якую прыбылі дэлегаты ад палкоў-заснавальнікаў, грамадзянскія ўлады Барысаўскага павета. Прыйшлі сяляне з Брылёў, Студзёнкі, Касцюкоў, Весялова, Вялікага Стахава і Бытчы, а таксама вучні Бытчанской царкоўнапрыходскай школы. Адкрыў цырымонію Іларыён Бразоўскі – святар Свята-Траецкай прыхадскай царквы сяла Бытча. Каротка абмаляваўшы падзеі вайны 1812 годы ў цэлым, бацюшка падрабязна распавёў аб напалеонаўскай пераправе. Пасля чаго айцец Іларыён адслужыў паніхіду і кароткую літургію ля курганоў, здзейсніў набажэнства. Па завяршэнні богаслужэння старэйшы з штаб-афіцэраў заклаў у падставу помніка срэбную пласціну, на якой было выгравіравана: "16 лістапада 1912 года, у стогадовы юбілей "Айчыннай вайны" 1812 года, у валадаранне Яго Імператарскай Вялікасці Гасудара Імператара Мікалая II Аляксандравіча, на гэтым месцы закладзены помнік на вечны ўспамін доблесці і стойкасці егерскіх палкоў. Тут, на гэтай пазіцыі, 14, 15 і 16-га лістапада 1812 года нашы егерскія палкі аказалі мужны супраціў пераправе праз р.Бярэзіну в.Студзёнкі французскага войска, асабіста кіраванай Імператарам Францыі Напалеонам, чым быў нанесены канчатковы ўдар французскага войска. Помнік гэты пастаўлены нашчадкамі егерскіх палкоў: 93 пях. Іркуцкім, 108 пях. Саратаўскім і 112 пях. Уральскім палком". Здравіца за імператара Мікалая II, дружнае "ура" і сумесны спеў гімна "Боже, царя храни" завяршылі цырымонію.

Праз 8 дзён вайсковая газета "Віленскі вайсковы лісток" у №685 ад 24 лістапада (ст.ст.) 1912 года змясціла публікацыю "Закладка помніка ў в.Брылі", у якой пры ўважлівым чытанні выяўляецца сёе-тое цікаўнае. "Пачатак пакладзены. Але каб захаваць магілы нашых продкаў Егераў (тут жа пахаваныя чыны і іншых ўдзельнікаў), косткі і чэрапы якіх сялянскі плуг пачаў даставаць на святло Божае, а сляды курганоў – раўнаваць з наваколлем, неабходна зараз жа абгарадзіць загараддзю (жывою), устанавіць ахову і штогод у гэты дзень здзяйсняць памінанне мясцовым духавенствам, – развіваў сваю думку аўтар публікацыі І.Караткоў. – Мясцовыя жыхары знаходзяць масу рэчаў, якія, вядома, калі б іх збіраць, служылі б памяцю аб вялікай падзеі. Час і нядбайнае стаўленне навакольных навват да чэрапаў пахаваных з часам знішчаць усякія сляды дарагога святога месца. Помнік мала кажа цёмнаму чалавеку, а царква, або капліца, са штогадовым маленнем у ёй і жывое слова, якое будзе прамаўляцца тады, паслужыць вечным напамінам аб тых, хто, не баючыся непераможнага грознага ворага, верачы ва Усемагутнага Бога і са словамі – "З намі Бог!" – кідаліся на ворага, паражалі яго і выгналі з межаў Айчыны". Па ўсёй бачнасці, у грамадстве (магчыма, і сярод афіцэраў штаба Віленскага вайсковай акругі) актыўна абмяркоўвалася пытанне, якім чынам варта ўвекавечыць памяць загінуўшых: уз-

(Працяг на стар. 10)

# “Так званая трэцяя сіла”

***(Працяг, пачатак у №6-8(159-161) за 2012 год)***

Калі я ўжо закрануў тэму т.з. трэцяй сілы, якая змагалася на два бакі фронту, то не магу абмінуць асобу нашага земляка І.Ермачэнкі.

У кнізе А.У.Раманько “Карычневыя цені ў Палессі. Беларусь 1941 – 1945”, Масква “Вече”, 2008, на стар.339 мы знаходзім:

Ермачэнка Іван (1894-?), беларускі палітычны дзеяч. Афіцэр Расейскай Імператарскай арміі, удзельнік Першай сусветнай і Грамадзянскай вайны, палкоўнік Белай арміі. Пасля заканчэння Грамадзянскай вайны эмігрыраваў у Чэхаславакію. Адзін з лідэраў беларускай эміграцыі ў гэтай краіне. З кастрычніка 1941 г. – прэзідэнт Цэнтральнага савета БНС (Беларуская Народная Самапомач). Генеральны камендант Корпуса беларускай самааховы. За дзейнасць, якая не ўклалася ў рамкі нямецкіх уяўленняў аб ролі беларускіх нацыяналістаў у акупацыйным рэжыме, змешчаны з паста кіраўніка БНС і адпраўлены зноў у Прагу (вясна 1943 г.). У далейшым не іграў якой-небудзь значнай ролі ў дзейнасці беларускай эміграцыі.

У гэтай жа кнізе на стар. 79 мы знаходзім, што 22 кастрычніка 1942 г. быў выданы ўказ В.Кубэ аб ужо афіцыйным стварэнні БНС. Ва ўказе гаварылася, што яна “з’яўляецца добраахвотнай народнай арганізацыяй, прызванай змагацца за адраджэнне беларускай культуры, рыхтаваць нацыянальныя кадры, аказваць дапамогу беларусам, пацярпелым ад ваенных дзеянняў, пераследу бальшавікоў і палякаў і аднаўляць разбураны чужакамі беларускі край”.

Згодна ўстава, дзейнасць БНС ахоплівала вельмі шырокі спектр жыцця беларускага грамадства. З дазволу Кубэ яна магла займацца школьнымі пытаннямі, стварэннем дамоў-чытальняў і бібліятэк, арганізацыяй усялякіх курсаў. Акрамя таго, ёй дазвалялася курыраваць народную ахову здароўя і выданне прэсы на беларускай мове. Барысаўскую акругу БНС узначаліў Станіслаў Станкевіч.

У вышэйузгаданай кнізе С.Ярша змешчаны фотаздымак, зняты на першым з’ездзе акруговых кіраўнікоў БНС у Менску ў 1942 г.



*Леанід Шунейка (злева).*



*Удзельнікі першага з’езду кіраўнікоў Беларускай народнай Самадапамогі (справа), які прайшоў у Менску ў 1942 годзе. Сядзіць у цэнтры – Іван Ермачэнка.*

Цяпер адкрываем кнігу Нінэль Дзмітрыевай і Леаніда Собаля “Зорка надзеі” (мастацка-дакументальная аповесць у сказах аб героях барысаўскага падполля, што дзейнічала ў гады ВАВ), Масква, “ДОК”, 1994. На стар. 121-132 у раздзеле “Зброя для партызан” мы знаходзім дадзеныя наконт таго, што І.Ермачэнка быў родам з в.В.Восава Халопеніцкай воласці Барысаўскага павета. У эміграцыі ажаніўся на дачцэ чэхаславацкага прэзідэнта Бенуша. Калі разам з нямецкай акупацыйнай адміністрацыяй ён зноў трапіў на радзіму, то праз непрацяглы час паехаў у Барысаў. Там сустрэў земляка, Есіфа Пятровіча Даўгалава, падпольшчыка. Ё.П.Даўгалаў успамінаў, што ў ходзе арганізаванага па гэтаму выпадку застолля, І.Ермачэнка спачатку падымаў тосты “За незалежнасць Беларусі”. Потым, пачаў гаварыць, што немцы рана ці позна сыдуць з Беларусі. Але яны зрабілі вялікую справу: вызвалілі краіну ад камуністаў. Потым І.Ермачэнка прапанаваў Ё.П.Даўгалаву арганізаваць “Саюз барацьбы за незалежную Беларусь”. Апошняму таксама гаварыў, што немцы яму пакуль давяраюць, і калі той дасць згоду стаць членам ствараемай арганізацыі, то ён дапаможа яму і іншым магчымым членам уладкавацца на добрую працу ў гарадскія акупацыйныя ўстановы. У далейшым Е.П.-Дауглаў стаў працаваць загадчыкам сталовай на шклозаводзе, а іншы падпольшчык, Браніслаў Замбржыцкі – загадчыкам аддзела аховы здароўя г.Барысава. Атрымалі пасады і іншыя з тых, каго рэкамендаваў І.Ермачэнку Е.П.-Даўгалаў. На жаль, у асобе Ё.П.-Даўгалава І.Ермачэнка памыліўся. Ён быў верным савецкай уладзе і да незалежнасці радзімы яму, вядома ж, справы не было. Аб якіх-небудзь іншых ячэйках “Саюза барацьбы за незалежную Беларусь” на Барысаўшчыне і іх далейшы лёс мне невядома.



*Ля памятнага знака на месцы пакарання падпольшчыкаў у Беразіно (злева). Здымак 1998 года.*



*Браніслаў Замбржыцкі (справа).*

А вось азнаёмцеся з яшчэ адным цікавым дакументам.

*Штаб п/о “Щорс” (п/б імя Шчорса – Ц.А.) Штаб бригады 30.01.44 20.30*

*Разведсводка*

*По данным войсковой разведки п/о “Щорс” в районе д.Демешковка (Бярэзінскі раён – Ц.А.) 30.01.44 произошел бой между полицейскими и немцами. Потери со стороны полицейских 1 убит и 2 раненых, немцев не известно.*

*Командир п/о Роспись /Лапин/*
*Военком п/о /Соболев/*
*/Нач.штаба Роспись /Козлов/*

***“НДАРБ Фонд1405 Воп.1 спр.1997 арк.83”***

Магчыма, нехта з нашых чытачоў валодае нейкай інфармацыяй па гэтым факце?

У 20-я гады на Ігуменьшчыне аперыраваў антысавецкі партызанскі аддзел Івана Ждановіча родам з в.Рэпішча. А ў гады вайны начальнік паліцыі г.Чэрвеня быў таксама нехта Ждановіч. Хацелася б таксама даведацца, ці не сваякі яны.

***Андрэй Цісецкі***





*Аперупаўнаважаныя аддзялення крымінальнага вышуку Барысаўскага РАУС (злева). Здымак канца 40-х гадоў XX ст. Другі злева Герасім Аляхновіч.*

*Асабовы склад аддзялення крымінальнага вышуку Чэрвеньскага РАУС (справа). Сядзіць другі справа намеснік аддзялення капітан міліцыі Герасім Аляхновіч.*

# Помнік на Бярэзіне, народжаны двойчы...

***(Працяг, пачатак на стар. 9)***

весці помнік альбо пабудаваць невялікую цэркаўку або каплічку. Відавочна, што аўтар з’яўляўся прыхільнікам другога меркавання. Заўважу, што гэта ўсяго толькі здагадка.

Да асноўных прац па пабудове помніка салдаты 108-а Саратаўскага пяхотнага палка з прыцягненнем мясцовых жыхароў прыступілі ўвесну 1913 года. У траўні прывялі ў парадак курганы: насыпы абклалі дзірваном і паставілі драўляныя крыжы. Ад імя палкоўніка Е.А.Міладанавіча ўсім зацікаўленым бакам разаслалі запрашэнні “ўшанаваць сваёй прысутнасцю асвячэнне помніка, збудаванага ў в. Брылі, Барысаўскага павета”, вызначанае на 13 гадзін дня 15 траўня (ст.ст.).

Урачыстае мерапрыемства пачалося ранішняй паніхідай па загінуўшых егерах 7-а, 10-а і 12-а палкоў. Роўна ў 13 гадзін наступіла галоўная частка мерапрыемства. На цырымоніі адкрыцця прысутнічалі: афіцэры на чале з камандуючым войскамі Віленскай вайсковай акругі, генералам ад кавалерыі П.К.фон Рэненкампфам, афіцэры-дэлегаты і па адным узводзе салдат Іркуцкага, Уральскага і Саратаўскага пяхотных палкоў, губернскія і павятовыя ўлады на чале з менскім губернатарам А.Ф.Гірсам. У ліку прадстаўнікоў мясцовай грамадскасці можна было бачыць, у прыватнасці, пару І.Х. і В.З. Каладзеевых. Прысутныя асабліва адзначалі вялікі збег мясцовага насельніцтва абодвух палоў. Як паведамляў аўтар нататкі аб адкрыцці помніка, апублікаванай у № 22 газеты “Наша Ніва” ад 31 траўня 1913 года, «бо думалі, што будуць даваць дармовую гарэлку, але гэтага не было».

Адкрылася мерапрыемства набажэнствам, якое адслужыў настаяцель Свята-Васкрасенскага кафедральнага сабора Барысава протаірэй святар Мікалай Фалевіч. Пасля заканчэння набажэнства войскі, пастроеныя ля помніка, накрытага покрывам, узялі зброю на варту, і ў гэты момант пакрывала апала. Перад поглядам прысутных паўстаў вытанчаны гранітны абеліск, увенчаны знакам Расійскай імперыі – двухгаловым арлом. Помнік умоўна дзяліўся на тры складовыя часткі – стэлу, гранітны блок і пастамент-падставу. Пастамент меў васьмікутную крыжападобную форму, складзеную з цэглы і выфарбаваную ў карычневы колер. У маленькіх нішах пастамента знаходзіліся белыя крыжы, прычым не праваслаўнага, а лацінскага тыпу. Куты пастамента займалі чатыры тумбы-аналоі з белым франтальным бокам. На кожнай тумбе ляжалі расчыненыя кнігі, якія ўтрымлівалі выняткі з Святога Евангелля і выказванні расійскага палкаводца генерал-фельдмаршала А.Суворава. Надпісы на старонках былі наступныя:

***“И аз живот вечный дам им: и не погибнут во веки. (Ев. От Иоанна, гл. Г.)”;***

***“Волыни сея любве никтоже имать, да кто душу свою положитъ за други своя. (Ев. От Иоанна, гл. ЕГ.)”;***

***“Кого из нас убьют Царствіе Небесное; живым слава, слава, слава! (Суворов)”;***

***“Три воинския искусства: глазомер, быстрота и натиск. (Суворов)”.***

На франтальным боку пастамента значыліся два гады: 1812г. 1912г. Далей ішоў пераходны элемент, на якім быў усталяваны гранітны блок з высечаным на ім мемарыяльным надпісам:

***“Доблестным предкам***
***егерям***
***7-го, 10-го и 12-го полков***
***павшим***
***в сражении на реке Березине***
***15, 16 и 17 ноября***
***1812 года.***
***Благодарные потомки:***
***93-й Иркутский***
***112-й Уральский***
***108-й Саратовский***
***пехотные полки”.***

На блоку стаяла гранітная стэла, франтальную грань якой упрыгожваў георгіеўскі крыж белай эмалі, апраўлены зялёным вянком з дубовага і лаўровага лісця. Вянчаў стэлу пазалочаны арол (па адной версіі ён быў бронзавы, па іншай жалезны). Падставай помніку служыў высокі подыум з прыступкамі, вядучымі да кожнага з 4-х бакоў абеліска, вышыня якога ад падножжа і да кончыка крыжа на кароне арла складала каля 6,5 м.

“Па абвяшчэнні многіх гадоў і здравіцы Гаспадару Імператару і Царскай Сям’і, пакрытай гучным “ура”, пяхотныя ўзводы па 16 шэрагаў у кожным пад кіраўніцтвам генерал-ад’ютант П.К.фон Рэненкампфа прайшлі ля помніка ўрачыстым цырыманіяльным маршам. На гэтым афіцыйная частка завяршылася.

Неафіцыйная частка мерапрыемства працягнулася на ўзлеску Стахаўскага лесу. У паходным шатры афіцэрскага сходу 108-а Саратаўскага пяхотнага палка адбылася памінальная абедная трапеза, падчас якой прагучалі шматлікія тосты, у тым ліку і за “палкі, продкі якіх сто гадоў таму назад абагрылі сваёю крывёй гэтую зямлю і са славаю супрацьстаялі ўсяму войску Напалеона”.

“Па абедзі загадалі палкавой музыцы зайграць польку, а сялянскім дзеўчатам танцаваць, – працягваў аўтар “Нашай Нівы”, – але штось танцы ня клеіліся: дзяўчаты не надта ўжо умелі забаўляць паноў. Адна дзеўчына дала салдату падзержаць вялікую хустку пакуль патанцуе, але браць назад хусткі непрышлося, бо не было ні салдата, ні хусткі”.

Чытачам “Гомана”, думаю, цікава будзе даведацца імя аўтара нататкі, скрытага пад крыптонімам “Ш-т” – Язэп Шпэт.

***(Працяг будзе)***

***Аляксандр Балябін,***
***гісторык ДУК “Барысаўская цэнтральная бібліятэка імя І.Х.Каладзеева”***

ГОМАН БАРЫСАЎШЧЫНЫ





Ківерная бляха 55-а палка са слядамі ўдару штыка, якая была знойдзена недалёка ад вёскі Бытча.

# Металадэтэктарны пошук як спосаб даследавання падзей Айчыннай вайны 1812 года

*Шмат невядомых падзей лістапада 1812 года ўтоена ад нас у смузе часу. Адна з іх – гэтае выратаванне 4-а батальёна 55-а лінейнага пяхотнага палка маёра (шэф батальёна – Заўв. аўтара) Жуайе. Дагэтуль гісторыкі і аматары тэмы Напалеонаўскіх войн маглі меркаваць аб гэтых падзеях па мемуарах і пазнейшых публікацыях у гістарычнай літаратуры. Прычым версію падзей ад генерала Луі Партуно ў наступным падхапілі ўсе даследнікі, ды і непасрэдныя ўдзельнікі бітваў на Бярэзіне, не звязаныя асабіста з акалічнасцямі паланення 12-й пяхотнай дывізіі. Металадэтэктарны пошук дапамагае не толькі выправіць недакладнасці ў гісторыі баёў 200-гадовай даўніны, але і аднавіць гістарычную справядлівасць, аддаць даніну павагі тым, хто сапраўды выканаў свой воінскі абавязак.*

Сцісла нагадаю, як апісаны падзеі ў мемуарах, і ў далейшым паспрабую ўвязаць падзеі з рэальнай мясцовасцю і з улікам знаходак аматараў ваеннай археалогіі. А таксама зрабіць высновы, не зусім падобныя на тыя, што падаюць нам пісьмовыя крыніцы.

Падышоўшы ў дзве гадзіны дня 27 лістапада да мызы Старабарысаў, генерал-маёр Е.І.Уластаў атакаваў і разбіў напатканую на шляху групу французаў, якія адсталі ад сваіх частак і рухаліся да Студзёнкі.

Уластаў размясціў свае войскі на паўночным беразе лагчыны, на якой месцілася паселішча, і тым самым перарэзаў адзіную дарогу з горада Барысава да Студзёнкаўскай пераправы.

Да вечара пазіцыі ля мызы ўзмацнілі войскі корпуса генерал-лейтэнанта Ф.Ф.Штэнгеля і ўтварылі рэзервовую групоўку.

У задачу 12-й пяхотнай дывізіі (з кавалерыйскай брыгадай узмацнення) 9-а пяхотнага корпуса Вялікай арміі дывізіённага генерала Луі Партуно ўваходзіла ўтрыманне Барысава да вечара 27 лістапада з мэтай уводзіць супраціўніка ў зман аб знаходжанні асноўных сіл Вялікай арміі (спроба працягваць падманваць Чычагава). Адначасова Партуно павінен быў затуляць Барысаўскі мост, абцяжарваючы тым злучэнне і арганізацыю ўзаемадзеяння рускіх войскаў.

Пачуўшы стральбу з боку Старабарысава і даведаўшыся аб руху з боку Лошніцы атрадаў казакаў, генерал Партуно ацаніў становішча і прыняў рашэнне прарывацца да Студзёнкі. Ён выступіў з Барысава пасля шасці вечара 27 лістапада.

Па мемуарах французскага генерала, з прычыны змяркання адбылася фатальная памылка – быў зблытаны маршрут руху. Замест таго, каб уздоўж берага Бярэзіны накіроўвацца да Студзёнкі, французскія войскі адхіліліся направа і выйшлі да Старабарысава, прама да пазіцыі супраціўніка, які іх чакаў. Завязаўся бой.

Толькі ар'ергард дывізіі – 4-ы батальён 55-а лінейнага палка – пад камандаваннем маёра (батальённага камандзіра) Жуайе, які затрымаўся ў горадзе для знішчэння пераправ праз раку Сха, здолеў абраць правільны шлях, і ўжо позна ўначы далучыўся да 9-а корпуса, маючы ў сваім складзе каля 220 чалавек і везучы з сабой 4 гарматы. Генерал Партуно сцвярджае, што батальён заблудзіўся, пайшоў не той дарагой і гэта дало магчымасць камандзіру батальёна прабіцца да галоўных сіл. Але гэта не так.

На сучаснай тапаграфічнай карце мясцовасці дарога ад горада Барысава да мызы Старабарысаў адна і цалкам супадае з дарогай, паказанай на карце рускага ваеннага гісторыка А.І.Міхайлоўскага-Данілеўскага, іншай дарогі няма. Злева груды, справа пойма ракі Бярэзіны. Гэта значыць, і асноўныя сілы дывізіі, і батальён Жуайе не маглі абмінуць рускіх пазіцый, бо яны ішлі па адной дарозе. Рэальна да сустрэчы з рускімі войскамі заблудзіцца не было магчымасці практычна. Другой дарогі проста не было.

Зыходзячы з гэтага, можна зрабіць выснову, што рэальная мясцовасць і адсутнасць другой дарогі дае поўную падставу ўсумніцца ў аб'ектыўнасці ацэнкі падзей камандзірам 12-й пяхотнай дывізіі.

А што нам падкажа металадэтэктарны пошук? Мясцовасць даўно і дбайна была прачасана да мяне, але тэхнічныя магчымасці толькі што набытага Мінелаба Explorer SE Professional (вялікі гвардзейскі гузік б'е на паўметра) далі цікавы вынік. Знаходкі дазволілі таксама па-іншаму паглядзець на дакладнасць мемуараў французскага камандзіра дывізіі. У раёне ручая, што працякае праз вёску Бытча, у 200-х метрах на ўсход ад Бярэзіны і ў 5 км ад месца бою асноўнай часткі 12-й пяхотнай дывізіі з корпусам генерала Штэнгеля, гэта значыць, ад мызы Старабарысаў, на месцы былога млына, мною была знойдзеная ківерная бляха 55-а палка са слядамі ўдару штыка. У ліку мноства іншых артэфактаў вайны 1812 года, выяўленых мною там жа, маецца і малы гузік 44-а лінейнага палка (таксама з дывізіі Партуно) і вялікі гузік гвардыі. Як я даведаўся з роспытаў іншых "камрадаў", на гэтай жа дарозе ўздоўж Бярэзіны знойдзены мундзірныя гузікі 5-а палка пешай артылерыі і мноства мушкетных куль. Падобныя знаходкі азначаюць адно – батальён з боем прарываўся па дарозе ўздоўж Бярэзіны і салдаты Жуайе не пажадалі здавацца ў палон. Гэта былі ваяры, загартаваныя баямі ў Іспаніі.

Дывізія Партуно завязала бой за паселішча Старабарысаў. Мыза пераходзіла некалькі разоў з рук у рукі. Але ў выніку Партуно адступіў на паўднёвы бераг лагчыны.

Дывізія, па ўсёй бачнасці, была схільная да панікі і страціла баяздольнасць, бо тыя, што адсталі, прынеслі вестку аб тым, што Барысаў заняты казакамі, і ад'ютант Партуно Раше паведаміў, што масты ў Студзёнцы агорнутыя полымем. Пасланы афіцэр пацвердзіў гэтае паведамленне, прыняўшы, па ўсёй бачнасці, полымя палаючай вёскі Бытча за масты генерала Эбле.

Луі Партуно пісаў: "Мы былі акружаныя, сціснутыя абозамі і 8 тысячамі адстаўшых, большай часткай бяззбройных, у лахманах, падобных на вандроўных мерцвякоў. Направа знаходзілася гара, занятая рускімі, налева Бярэзіна і рускія; наперадзе і ззаду стаялі рускія, і іх ядры прабівалі нашы калоны наскрозь. Да давяршэння бедстваў мне данеслі, што загарэліся масты пры Студзёнцы, дзе трэба было злучыцца з войскам. Пасля аказалася, што вестка была недакладнай, і мы даведаліся, што полымя ў вёсцы прынялі за пажар мастоў, я паслаў адшукаць якую-небудзь дарогу для выратавання, спадзеючыся ў поцемках прабіцца ўпотай міма рускіх, і забараніў страляць".

Партуно з невялікай групай салдатаў, да дзвюх рот, перасёк баявыя пазіцыі рускіх войскаў і пачаткаў блукаць па лесе. Далей ён успамінае: "Мінуючы невялікую прастору, я апынуўся сам-насам з непрыяцелем, але працягваў марш у найвялікшай цішыні, па балотах, азёрах і лясах, пераследуемы і сціснуты казакамі, бо быў імі пазнаны. Акружаны са ўсіх бакоў варожымі агнямі, знемагаючы ад голаду, стомленасці і сцюжы, ледзь не патануўшы ў возеры, якое толькі што замерзла і ўтоена было ад нас цемраю і снегам, мы склалі зброю". Дарэчы аб азёрах – іх няшмат, і ўсе яны знаходзяцца ўздоўж ракі, з'яўляючыся старыцамі. Заўважце, колькі трагедый, і ўсё змяшана: і бой, і блуканне генерала, і тое, што яго пазналі ў цемры. І наогул сітуацыя паднесена, як поўная безнадзейнасць. А як жа ўсё-такі выратаваўся батальён Жуайе – ды так, проста заблудзіўся, і яшчэ разам з ім заблудзілася дывізіённая артылерыя. Але "суровы" па выніках капання Мінелаб – "прафесійны эксплуататар страсцей" (Explorer SE Professional) аспрэчыў мемуары французскага генерала. Генерал відавочна хітраваў, спрабуючы апраўдаць здачу дывізіі ў палон. Даведаўшыся аб капітуляцыі, Напалеон у лютасці сказаў: "Барабаншчык мог зберагчы таварышаў ад ганьбы, даўшы сігнал да нападзення. Маркітантка магла захаваць дывізію, выгукнуўшы: "Кожны за сябе!"

Які ж далейшы лёс батальёна? Алег Сокалаў, сучасны расійскі гісторык у сваёй кнізе "Армия Наполеона" піша аб батальёне: "Для таго, каб не даць рускай батарэі, якая высунулася да ракі, весці агонь па пераправах, у нападзенне на гаёк быў кінуты адзіны французскі батальён, пакінуты ў корпусе Віктора. Гэты маленькі атрад колькасцю ў 213 чалавек пад начальствам камандзіра батальёна Жуайе, падтрыманы дзеяннямі Бадэнскай пяхотнай брыгады, накіраваўся наперад. Ва ўпартым баі ён адціснуў рускую пяхоту і вымусіў батарэю адкаціцца назад, тым больш, што з іншага берага ракі адкрыла агонь гвардзейская артылерыя. Аднак за гэты невялікі поспех батальён Жуайе заплаціў дарагі кошт. На працягу дзесяці хвілін ён страціў больш трох чвэрцяў свайго складу, і ў яго складзе да канца бою застанецца толькі 42 чалавекі!"

І сапраўды: знаходкі мундзірных гузікаў 55-а палка насупраць могілак вёскі Студзёнка, а таксама багацце мушкетных куль пацвярджаюць успаміны сучаснікаў бітвы аб подзвігу батальёна і паказваюць на месца апошняга бою маёра і яго салдатаў.

Час не захаваў успамінаў камандзіра Жуайе, і, па ўсёй бачнасці, ён загінуў у "Крывавага ручая" (маленькая рачулка ля вёскі Студзёнка) або замерз па дарозе на Вільню. Але версія мемуараў генерала Луі Партуно аб тым, што батальён заблудзіўся і таму не здаўся ў палон, не зусім зразумелая пры супастаўленні тэкстаў з рэальным рэльефам мясцовасці, месцам гістарычных дарог і знаходкамі артэфактаў па 1812 годзе.

***Уладзімір Кішчанка,***
***гісторык Барысаўскай цэнтральнай раённай бібліятэкі імя І.Х.Каладзеева***

# Планавікі

*З цікавасцю прачытаў у папярэднім нумары "Гомана Барысаўшчыны" артыкул пра Барыса Андрэевіча Макейчанку, які ў мінулым працаваў першым намеснікам старшыні Дзяржплана БССР. У сувязі з гэтым мне хацелася б успомніць яшчэ двух высокапастаўленых савецкіх планавікоў, імёны якіх таксама звязаныя з нашым горадам.*

**Язэп Львовіч Чорны** (1906-1994) з 1924 па 1930 працаваў на шклозаводзе і вучыўся ў Барысаўскім рабфаку. Затым скончыў політэхнічны інстытут. Потым быў шлях ад радавога інжынера да старшыні Дзяржплана БССР. На гэтай працы ён знаходзіўся з некаторымі перапынкамі з красавіка 1938 па жнівень 1953 года, калі за крытыку кіраўніцтва быў выдалены з урада.



Я.Чорны

Такую ж пасаду старшыні Дзяржплана Беларускай ССР займаў і выхадзец з Барысава **Анатоль Антонавіч Рэут** (1928-2001), але затым ён быў пераведзены ў Маскву, дзе ўвайшоў у саюзны ўрад, прызначаны Міністрам СССР і першым намеснікам Дзяржплана СССР, прапрацаваўшы на гэтай пасадзе з 1985 да выхаду на пенсію ў 1989 годзе. Ён быў лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі і ўзнагароджаны некалькімі вышэйшымі ордэнамі.

Могуць сказаць, што для радавых грамадзян дзейнасць гэтых планавікоў была непрыкметная, паколькі іх планаванне хранічны дэфіцыт і сталыя чэргі не ўхіліла. Але што маглі зрабіць хай нават самыя таленавітыя гаспадарнікі ў краіне партыйнага гвалту і карыкатурнага сацыялізму?



А.Рэут

***Аляксандр Розенблюм***

# Ці магло быць Барадзіно, калі б не было Лубіно?

*4 жніўня ў Кардымаўскім раёне Смаленскай вобласці праходзіў ваенна-гістарычны фэст, які быў прысвечаны 200-годдзю бітвы пры Лубіно (у французскай гістарыяграфіі – бітва пры Валуцінай гары).*

У рэканструкцыі бітвы прынялі ўдзел больш 1000 уніфармістаў з Расіі, Беларусі, Украіны, Польшчы і Латвіі. Горад Барысаў прадстаўлялі клубы ваенна-гістарычнай рэканструкцыі "Дняпроўскі пяхотны полк", "Беларускі гусарскі полк", "Азоўскі пяхотны полк" і "50-я рота лёгкай артылерыі", а сталіцу нашай рэспублікі – "Менскі пяхотны полк", "Магілёўскі пяхотны полк", "18-ы пяхотны полк ВКЛ" і "17-ы уланскі полк ВКЛ". Ваенна-гістарычная рэканструкцыя была арганізаваная адміністрацыяй Смаленскай вобласці і фондам "Прымірэнне" і прыцягнула ўвагу каля 20 тыс. гледачоў, у т.л. прадстаўнікоў СМІ і амбасады Францыі ў Расіі.

Эпізод рэканструкцыі бітвы пры Лубіно праходзіў у адпаведнасці з гістарычнай рэчаіснасцю: на поле ў баявых парадках занялі пазіцыі палкі рускай пяхоты і эскадроны кавалерыі пад камандаваннем генерала П.Тучкова, задачай якіх, як і роўна 200 год таму, было затрымаць корпус маршала М.Нэя. Сёлетняя рэканструкцыя была самай маштабнай (яна тут праводзіцца ўжо ў пяты раз). Распачалася яна з залпаў гармат. Без перадышкі палкі французскай лінейнай і лёгкай пяхоты атакавалі пазіцыі рускіх войскаў. Французскія гусары, захапіўшы рускую артылерыйскую батарэю, разам з цяжкай кавалерыяй – кірасірамі і коннымі карабінерамі – беспаспяхова спрабавалі прабіць пралом у шэрагу рускіх грэнадзёраў. Бітва скончылася стратэгічнай перамогай рускага ар'ергарда – наступ французаў быў адбіты, а асноўныя сілы былі захаваныя для Барадзінскай бітвы. Аб бойцы пры Лубіно граф Сегюр, ад'ютант Напалеона, у сваіх мемуарах адзначае: 'У іх паразе было столькі ж славы, колькі ў нашай перамозе".









У час рэканструкцыі бітвы пры Лубіно.



Пасля рэканструкцыі адбылося ўрачыстае перапахаванне рэштак 28 рускіх, французскіх і партугальскіх жаўнераў, якія загінулі ў бітве пры Лубіно. Увечар у гістарычным лагеры прайшоў "Гусарскі баль", у якім прынялі ўдзел уніфармісты і госці фэсту. На наступны дзень у Смаленску пры шматлікіх гледачах прайшоў ваенна-гістарычны парад уніфармістаў – удзельнікаў рэканструкцыі.

***Зміцер Ракаў,***
***уніфарміст***

# Крыжаванка

***складзена па матэрыялах гэтага нумара***

**Па гарызанталі:** 1 – былое мястэчка; 2 – вядомы беларускі археолаг XIX стагоддзя, які пэўны час жыў на Барысаўшчыне; 3 – гістарычная назва часткі сучаснай вуліцы Камсамольскай у Барысаве; 4 – вёска на Барысаўшчыне; 5 – вёска на Барысаўшчыне; 6 – Тутэйшы землеўладальнік у XVII стагоддзі; 7 – лясніцтва; 8 – тутэйшая землеўладальніца ў XIX стагоддзі; 9 – рака на Барысаўшчыне; 10 – гараднічы ў Барысаве напрыканцы XVIII стагоддзя; 11 – фальварак, потым маёнтак; 12 – раён, які мяжуе з Барысаўскім раёнам; 13 – ратман у Барысаве напрыканцы XVIII стагоддзя; 14 – вёска на Барысаўшчыне; 15 – бургамістр у Барысаве напрыканцы XVIII стагоддзя; 16 – вёска на Барысаўшчыне.




**Адказы на крыжаванку**, што змешчана ў "ГБ" №6-8(159-161): 1 – Забашавічы; 2 – Аздзяціцкі; 3 – Бярэзіна; 4 – Брылёўскае; 5 – Урыцкага; 6 – Весялоўскі; 7 – Полацкая; 8 – Ігумен; 9 – Паўлавец; 10 – Завадская; 11 – Шчорса; 12 – Прыяміна; 13 – Чарнышэўскі, 14 – Рынкавая; 15 – Цэнтральная; 16 – Печы.

# Лічбавая крыжаванка

**4:** 1234, 2547, 3726, 4430, 4475, 5021, 7301, 7482;

**3:** 150, 175, 257, 304, 351, 410, 457, 514, 654, 734, 742.



# Японская крыжаванка



**Адказ на лічбавую крыжаванку, што была змешчана ў "ГБ" № 6-8(159-161)**








ГОМАН БАРЫСАЎШЧЫНЫ

Рэдакцыйная рада:
**Белы Іван Юр'евіч,**
**Мацельскі Міхась Альфрэдавіч** (заснавальнік, рэдактар і выдавец),
**Пучыла Міхась Канстаніцінавіч,**
**Шміт Таццяна Георгіеўна** (нам. рэдактара).

Тэл/факс 75-32-77,
Тэл. 79-56-86,
8(029)615-32-77.
e-mail: gomanbar@tut.by
Юрыдычны адрас: г. Барысаў, б-р Камарова, 22-66.

**Наклад 299 асобнікаў**

**Падпісана ў друк 14.00 04.09.2012 г.**

**Замова № 7152**
**Друкарня імя 1-га Мая**
**г. Барысаў, вул. Будаўнікоў, 33.**

Газета надрукавана з гатовых дыяпазітываў заказчыка.

ISSN 2074-0573






***Адрас для пісьмаў: а/с 43, Барысаў-1, 222511, Беларусь***